Выходзіць з 1932 года.

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

13 СНЕЖНЯ 2002 г. № 49—50/4183—4184 КОШТ 335 РУБ.

# Гісторыя «ПОЛЫМЯ» — гэта гісторыя нашай літаратуры

80



Сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. ЛУКАШЭНКІ з вядомымі беларускімі і рускімі пісьменнікамі. 1997 г.

# ПОЛЫМЯ -часопіс 80 год


У. ДУБОЎКА, З. БЯДУЛЯ і М. КАСПЯРОВІЧ. 20-я гады.


А. КУЛЯШОЎ, М. ЛЫНЬКОЎ, В. ВОЛЬСКІ і М. ТАНК. Нарач, 1971 г.


І. НАВУМЕНКА і Ф. МАНЗІЕНКА ў ХАТЫНІ. 1974 г.


Сядзяць: А. АДАМОВІЧ, А. КУЗЬМІН, В. БЫКАЎ, стаяць: А. СУЛЬЯНАЎ і А. ЛЮЦКО. 1987 г.


У. ЛАБАНОК і П. БРОЎКА.


У. КАРАТКЕВІЧ і Р. БАРАДУЛІН. Юрмала, 1967 г.


Б. САЧАНКА. Нарач. 80-я гады.


В. АДАМЧЫК. Ля роднай хаты. 1985 г.

(Працяг. Пачатак на стар. 2)

Часопіс друкуе творы беларускіх пісьменнікаў; пераклады твораў класікаў сусветнай літаратуры і сучасных пісьменнікаў замежных краін; артыкулы па пытаннях беларускай культуры і мастацтва, гісторыі, краязнаўства, эканомікі, грамадска-палітычнага і сацыяльнага жыцця Беларусі; рэцэнзіі.

У часопісе "Полымя" ўпершыню апублікаваны многія творы
Янкі Купалы
Якуба Коласа (у тым ліку раздзелы з паэмы "На шляхах волі", паэма "Рыбакова хата", аповесці "Дрыгва", "На ростанях")
Вячаслава Адамчыка
Лідзіі Арабей
Алеся Асіпенкі
Анатоля Астрэйкі
Міколы Арочкі
Міколы Аўрамчыка
Рыгора Барадуліна (у тым ліку пераклад тэксту Дзяржаўнага гімна Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік на беларускую мову — разам з Петрусём Броўкам, Кандратам Крапівой, Максімам Танкам, Аркадзем Куляшовым, Піменам Панчанкам)
Сымона Баранавых
Алеся Бачылы
Дануты Бічэль-Загнетавай
Раісы Баравіковай
Таісы Бондар
Петруся Броўкі
Янкі Брыля (у тым ліку раман "Птушкі і гнёзды", аповесць "Ніжнія Байдуны")
Генадзя Бураўкіна (у тым ліку паэма "Ленін думае пра Беларусь")
Васіля Быкава (у тым ліку аповесці "Здрада", "Круглянскі мост", "Сотнікаў", "Знак бяды", "У тумане", "Аблава", "Сцюжа", "Ваўчыная яма")
Алены Васілевіч
Васіля Віткі
Анатоля Вялюгіна
Анатоля Вярцінскага
Платона Галавача
Змітрака Бядулі
Цішкі Гартнага
Максіма Гарэцкага (у тым ліку раман-хроніка "Віленскія камунары")
Сцяпана Гаўрусёва
Ніла Гілевіча
Пятра Глебкі
Міколы Гіля
Анатоля Грачанікава
Юркі Голуба
Сяргея Грахоўскага
Леаніда Дайнекі
Генрыха Далідовіча
Уладзіміра Дамашэвіча
Сяргея Дзяргая
Уладзіміра Дубоўкі

(Працяг на стар. 6)

# НАВАЛЬНІЦА НАД ПОЛЕМ

**Урывак з рамана**

Іван МЕЛЕЖ

**2**

З таго дня апанавала Ганну адна думка, адно жаданне: пабачыць Васіля. Спаткаць дзе-небудзь нязаскавага, нядобрага, любага. Лежачы каля Яўхіма, які зморана спаў, яна душыла ў сабе глухую нянавісць стрымлівалася, каб не ўстаць, не пайсці куды вочы глядзяць. Далей з гэтай важкай цемры, з задухі гэтай. Трэба ж было ляжаць спакойна, не варушачыся, бо свякруха таксама часта не спала,— Ганне было чуваць яе крахтанне ды божканне. Часам здавалася, што старая прыслухоўваецца ў цішы да Ганніных нядобрых думак, каб заўтра расказаць пра ўсё сыну, накінуцца на яе.

Прыслухоўваецца. Няхай прыслухоўваецца. А яна, Ганна, будзе думаць пра тое, пра што хочацца, што любае. Пра Васіля! Што ж думаць нельга аб тым, што адно дае ёй цяпер уцеху! Яна ж, можа, і жыве цяпер толькі тым, што ён недзе ёсць, што, можа, таксама вось так ляжыць і думае пра яе...

Не, не думае. Даўно з галавы выкінуў усе думкі аб ёй. І ці дзіва, чаго яму думаць, калі ў яе — чалавек, а ў яго — жонка?

А яна вось думае пра Васіля. Ведае, што — непатрэбнае, лішняе — а думае. І думкі найбольш адны: то ўспамінае былое, то гадае, ці любіць ён жонку сваю. А над усім жаданае: як бы пабачыцца. Сказаць бы некалькі слоў, пачуць яго. А можна і не гаварыць, толькі б пабачыцца, ды каб не на людзях, а адным, каб ніхто не замінаў, каб не трэба было хаваць душу, таіцца. У такія хвіліны часта шукала думкамі, разважала: дзе б маглі сустрэцца, у які час...

Часта ва ўяве ўзнікалі жаданыя сустрэчы так ясна, што ў грудзях рабілася цёпла і хораша. Бачыла Васіля перад сабой, быццам быў направду тут, чула яго ласкавыя словы так, нібы ён і праўду гаварыў. Словы яго ў марах-уяве былі заўсёды пяшчотныя, добрыя, такія якраз, якія хацелася, якія даўно не чула і якія, можа, не пачуе. І сама гаварыла яму пра тое, каб не крыўдаваў, каб даравай, пра тое, які ён харошы і што любіла і любіць будзе яго аднаго, адзінага...

Днём, каб пабачыцца з Васілём, некалькі разоў хадзіла дамоў, да сваіх; ступаючы паўз Васілёву хату, мімаволі насцярожвалася, коса паглядвала на яго двор, на шыбы. Аднойчы ўбачыла: Васіль перапрагаў каня каля ганка. Заўважыўшы яе, знарок адвярнуўся — яна потым цэлы тыдзень хадзіла журботная. Другі раз бачыла яго з бацькавага агарода: браў сена з воза, насіў у гумно. Быў не адзін, з Маняю, стары Дзяніс побач стаяў, штосьці гаварыў яму...

Цяпер, калі ў Глушакоў бульбу пакапалі, прыйшла да сваіх, памагчы; тая ўцеху — хоць здалёк, хоць з жонкаю пабачыць яго. Загоны бульбы, бацькаў і Васілёў, былі побач.

Бульба на Васілёвым загоне была яшчэ не дакапана. Але ні Васіля, ні Мані не было, капала адна яго маці. Ганна сказала вінавата ёй "добры дзень".

— Не кончылі? — прамовіла да маці, абы не маўчаць.

— Не кончылі... Клопат розны, не ў пару...

Ганна заўважыла, што старая не крыўдуе, і ёй палягчэла. Спадзеючыся, што маці скажа, дзе Васіль, запыталася:

— Які клопат?

— Які ж! Гарпіна, Маніна сястра, што ў Алешніках, захварэла. Дак от Васіль паехаў з Маняю. Мо дохтара трэба...

— І што, хворая вельмі?

— Сястра? Зжоўкла на лісток лазовы!..

— Бяда якая! — паспачувала Ганна.

— І не кажы! Бяда!..

— А я сваім хачу памагці! Дадому закарцело...

— Аге ж! Ведамо!..

Ганна пайшла да сваіх. Бацька выслізганым жалезняком падкопваў бульбяныя карчы, а мачыха і Хведзька выбіралі. Мачыха выпрастала спіну, з падазронасцю зірнула на Ганну.

— Пра што ето вы там?

— Так. Нічога...

Рыючы зямлю, Ганна раз-пораз паглядвала на дарогу, што ішла з сяла: ці не едзе? Па дарозе то з сяла, то ў сяло поўз чый-небудзь кош; Ганна з надзеяй углядвалася ў тыя, што выкіроўваліся ў поле,— можа, Васіль? Васіля не было.

Ён прыехаў пасля абеду. Адзін. Ледзь убачыла яго, адчула, як кроў прыліла ў твар. Твару не ўздымала, чамусьці цяжка было ўзняць, сэрца білася часта і горача. Але і не падымаючы галавы адчувала, як ён пад'ехаў, чула рыпенне яго калёс, яго голас. Што сказаў ён маці, не разабрала, вецер аднёс словы.

Ганна пакпіла з сябе: трэба ж, перажывае, як нейкая дзяўчынка! Вочы баіцца ўзняць, як зладзейка. Дзівачка! Здаецца, ён пазірае на яе, сочыць, бачыць, як яна збянтэжылася. А яна вось зараз возьме ды таксама пaглядзіць на яго, проста ў вочы. Хай судзіць!..

Узняла вочы на яго. З намаганнем, з трывогаю. Ён не глядзеў, ён памагаў маці капаць. Васіль, здавалася, быў увесь адданы свайму занятку. Гэта было відаць па тым, як рабіў, па ўсёй яго постаці. Не глядзіць, нават глядзець не хоча. Што ж, няхай не глядзіць, ёй гэта не трэба!

Але Ганна не магла не паглядваць на яго. Яе позірк нібы прыцягвала да Васіля. Усё навокал перамянілася з той пары, як прыехаў Васіль; як сэрца, здавалася, чула набліжэнне навальніцы, далёкі, жаданы і трывожны подступ грому, ад якога страхам і радасцю ныла ў грудзях. Усе думкі, уся яе ўвага былі цяпер у тым баку, дзе заклапочана схіляўся Васіль. Ён быў быццам побач, быццам стаялі тварам у твар. Блізкія, чулыя, усё на віду...

Чаму ён адзін прыехаў? Дзе Маня, жонка яго?

Яна трывожылася, што Васіль паедзе рана, што мачыха затрымаецца позна. Ледзь ухавала радасць, калі падвечар мачыха стала хапацца дадому: карміць скаціну. Як насыпалі кош, яна і падалася з возам. Бацька таксама пайшоў: правіў канём. Ганна асталася, сказала: яшчэ хоча пакапаць. Не разгінаючыся, выбірала бульбу, кідала ў каробку. Хоць галавы не ўздымала, адразу ўгледзела тое, што хацела: падалася нарэшце ў сяло Васілёва матка. Астаўся толькі Хведзька.

Надыходзілі раннія асеннія поцемкі. Людзі, кашы з бульбай адзін за адным выпраўляліся з поля.

Ганніна сэрца білася моцна, трывожна. Цяпер самы час. Цяпер ці ніколі. Няўжо не падыдзе, не захоча падысці да яе? Насцярожаная слухала, чакала. Не, не ідзе, не хоча. І так не цярпелася ўбачыць бліжэй, так баялася, што час міне і ім ніколі ўжо не ўдасца пабыць так, як марыла даўно, — удваіх, адным, што не ўтрывала. Кінула збуцвелае каліва бульбоўніку, забыўшыся на ўсе трывогі, на ўсё, хутка, пахапліва падалася напрасткі да яго.

Ён разагнуўся, выцер аб штаны рукі. Глянуў хмурна.

Ганна, спыніўшыся перад ім, перавяла дыханне. Родны, які родны! Ці не ў сне гэта? Убачыла на зрэбнай, з плямамі зямлі сарочцы латку, няўмела прышытую. "Сам, мусіць, прышываў!" — і горыч віны, і пяшчота, і жаль нахлынулі на яе.

— Васіль...

Толькі і змагла сказаць. Але як прамовіла — так, як тады, у многія бяссонныя ночы, калі пра яго думала.

У Васіля раптам дробна, па-дзіцячы бездапаможна задрыжалі губы. Не змог ухаваць крыўды.

Стаялі моўчкі. Ганна загаварыла першая:

— Даўно не бачыліся...

Яна прамовіла не так, як трэба было: чамусьці радасна. Ён адказаў халаднавата:

— Даўно...

— Падрос ты... Мужчына ўжэ...

— Пара...

— Я цябе бачыла...

Ён не пацікавіўся, калі.

— Ты каня перапрагаў... Ехаць, мабыць, сабіраўся кудысь...

Зноў памаўчалі.

— Я цябе сам бачыў...



— Ты адвярнуўся...

— Не тады... Як да сваіх ішла...

Узрадавалася.

— Калі?

— Пазаўчора...

— Па загуменні?!

— Я ў гумне быў...

— Ты?!. Я Валодзьку бачыла...

— Мы ўдваіх... Я ў гумне, ля варот...

— А я не знала.

Словы гэтыя вырваліся самі сабой, у іх было шчырае, непрытоенае шкадаванне. Таксама шчыра, але крыху пакрыўджана папракнула:

— Не выйшаў... Схаваўся...

— Я знарок...

— Чаму? — Ганна выціснула: — Гадкая я табе?

— Чужыя.. У цябе — сваё, у мяне — сваё...

— Мне... хацелася пабачыцца!.. А дзе — Маня?

— У Алешніках. З сястрою асталася...

— Пагано ёй, сястры?

— Пагано...

Ёй упала ў вочы яшчэ латка, акурат-на прышытая, пэўна, жонкаю.

— Як табе жывецца?

— Так... Жывецца...

— Маня — добрая. Працавітая... Акуратная...

— Акуратная...

Ён не хацеў гаварыць пра жонку. Зноў трохі памаўчалі. Васіль адолеў сябе, сваю чужацкасць, кінуў спадылба раўнівы позірк:

— А ты як?

— Не пытайся...

— Багачка!..

Губы яе кпліва смыкнуліся:

— Багачка...

Яна момант яшчэ стрымлівалася. Таіла горыч і шкадаванне, як звычайна. Як усе месяцы, усе гэтыя гады, ад усіх. Звыкла ўжо таіцца. Але — чаго ж таіць ад яго? Каму ж і адкрыцца, як не яму?

Апаліла Васіля вачыма:

— Вася, мне тое багацце... во! — Ганна парывіста правяла рукою па шыі. — Хай яно — агнём!

Ён збянтэжыўся:

— А я думаў...

— Што ты думаў?

— Я думаў, што ты... што табе — анігадкі... не горко...

— Ты думаў! Эх, Вася!

У яе голасе быў не дакор яму за тое, што мог так думаць, а яе боль за сваю долю. Ужо, каб і хацела, не змагла б таіцца. Шчыра, з нейкай адчайнай рашучасцю выдыхнула:

— Магіла то мая, Вася!

— Магіла?

Неспадзявана і для Васіля, і для сябе Ганна горача, з той жа рашучасцю запыталa:

— Вася, табе не шкода, што ў нас так.. няскладно?

У яго лягла хмурынка між броваў. Ёй нічога не трэба, ёй толькі ведаць хочацца. Толькі ведаць, не для якіх-небудзь думак, разлікаў, так, для душы. Глядзела на яго, чакала, замёршы ўся:

— Не шкода, Вася?

— Чаго гаварыць!..

— Не шкадуеш, скажы?!

— Пустое ето!

Ён праўду кажа, не трэба пытацца. Пустое. Але ж ёй так хочацца ведаць!

— Скажы, Вася! Я хочу знаць!

— Што ж таго — шкадуеш, не шкадуеш?!.

— Скажы! Я хочу, Вася, скажы!.. Не шкадуеш?

— Ну, от! — Ён нібы гаварыў: прыйдзе ж у галаву такая непатрэбшчына. — Кончано ж усе...

— Кончано?

— Ну, ты ж знаеш! Ты ж ... — Васіль зазлаваў. Няхай злуе, так лягчэй, так лепш, чым гэты нядобры холад. — Ты ж пачала ўсё...

Яна згадзілася — нібы з радасцю:

— Я... Я вінавата... Я...

Вочы яе хутка заслала слязьмі. Ганна закрыла твар далонямі.

— Людзі ўбачаць.

— Няхай бачаць. Што мне, і паплакаць няможно ніколі?..

— Гаварыць будуць...

— Няхай гавораць! Ты — баішся?

— Я? Мне — што?

Ганне палягчэла: пра яе непакоіцца! Пра яе думае — значыцца, не зусім абыякавы.

Яна ціха, як бы не верачы сабе, сказала:

— Ты... ты не забуў саўсім, Вася?..

Ён не адказаў. Дзіўныя пытанні часам у гэтых жанчын бываюць. Абы запытацца.

Яна ўсё зразумела і без слоў.

— Не забуў, Вася!.. Вася, мне зараз так добра!.. Мне больш нічога і не трэба було. Толькі знаць ето, і ўсё!

Ганна са слязьмі ў вачах усміхнулася:

— Е і ў мяне радасць!

Васіль аб нечым думаў.

— Пра што ты, Васіль?..

— Ды от... Як нам цяпер?..

Да іх ішоў Хведзька. Убачыўшы гэта, Васіль недавольна нахмурыўся. Ганна здагадалася — не падабаецца, што прыйдзецца спыніць размову. Адчула, якое жаданне з'явілася ў ім, якія словы зараз сарвуцца з яго неспакойных губ, сказала сама:

— Вася, давай — пабачымся!

— Як?

— Ну, я... прыйду... Куды толькі?

— А калі?

— Хоць заўтра! Як сцямнее...

Ён зірнуў, як бы сам пытаўся:

— К гумну, хіба? Дзе яблуня?

— Добра.

Калі ішла назад, не чула пад сабой зямлі. На сваёй палосе раптам гарэзна абхапіла Хведзьку, сціснула. Хацелася смяяцца, крычаць: не забыў, не выкляў, любіць! Любіць!

"Полымя" № 1, 1964

**ПОЛЫМЯ**

*-часопіс*

*80 год*

(Працяг. Пачатак на стар. 2, 4)

**Алеся Дудара**
**Аляксея Дударава**
**Алеся Жука**
**Янкі Журбы**
**Сяргея Законнікава**
**Міхася Зарэцкага (у тым ліку раманы "Сцежкі-дарожкі", "Вязьмо")**
**Алеся Звонака**
**Васіля Зуёнка**
**Віктара Казько**
**Паўла Кавалёва**
**Уладзіміра Караткевіча**
**Віктара Карамазава**
**Вольгі Іпатавай**
**Аляксея Карпюка**
**Валянціны Коўтун**
**Кастуся Кірэенкі**
**Кандрата Крапівы (у тым ліку п'есы "Партызаны", "Хто смяецца апошнім", "Мілы чалавек", "Брама неўміручасці")**
**Анатоля Кудраўца**
**Аляксея Кулакоўскага**
**Аркадзя Куляшова (у тым ліку паэмы "У зялёнай дуброве", "Прыгоды цымбал", "Новае рэчышча", "Грозная пушча", "Далёка да акіяна", "Хамуціус")**
**Міколы Лобана**
**Алега Лойкі**
**Еўдакіі Лось**
**Міхася Лынькова (у тым ліку аповесць "Міколка-паравоз", раман "Векапомныя дні")**
**Андрэя Макаёнка**
**Петруся Макаля**
**Мікалая Матукоўскага**
**Ніны Мацяш**
**Івана Мележа (у тым ліку раманы "Мінскі напрамак", "Людзі на балоце", "Подых навальніцы", "Завеі, снежань")**
**Барыса Мікуліча**
**Паўла Міська**
**Андрэя Мрыя**
**Рыгора Мурашкі**
**Міколы Мятліцкага**
**Івана Навуменкі**
**Янкі Нёманскага**
**Івана Новікава**
**Уладзіміра Някляева**
**Веры Палтаран**
**Алеся Пальчэўскага**
**Сяргея Панізніка**
**Пімена Панчанкі**
**Уладзіміра Паўлава**
**Генадзя Пашкова**
**Піліпа Пестрака (у тым ліку раман "Сустрэнемся на барыкадах")**
**Алеся Петрашкевіча**
**Паўла Пруднікава**
**Івана Пташнікава**
**Язэпа Пушчы**
**Аляксея Пысіна**
**Уладзіслава Рубанава**
**Аляксея Русецкага**
**Рамана Сабаленкі**
**Эдуарда Самуйлёнка**
**Барыса Сачанкі**

(Працяг на стар. 8)

# ВАЗЬМУ ТВОЙ БОЛЬ

## Урывак з рамана

**22**

Рабілі ў лесе. Памагалі лясніцтву. Даўняя Астаповічава завядзёнка: калі канчаліся работы ў полі, знаходзіў людзям іншы занятак. Для добрынцаў лес з дагістарычных часоў быў другім карміцелем, а можа, некалі нават першым, не дарэмна выраслі дынастыі славутых на ўсё наваколле бондараў. Але і тыя беднякі, што не бандарылі, не гнулі палазоў, толькі на лесе маглі зарабіць капейчыну: украсці пару бярэзін, распілаваць, раскалоць і ў зімовую ноч адвезці дровы ў бліжэйшае чарнігаўскае мястэчка, прадаць знаёмым яўрэям. Цяпер, безумоўна, лес таго значэння ў заробку не мае. Аднак палілі яшчэ дровамі, ды і дошка, шалёўчына, гонта кожнаму былі патрэбны.

Саўгас, па ініцыятыве Астаповіча, меў доўгатэрміновае пагадненне з лясгасам: у асенне-зімовы, час памагаў двум суседнім лясніцтвам у якіх заўсёды не хапала рабочай сілы, выконваць іх планы па нарыхтоўцы драўніны, санітарных высечках, па пасадках.

Пасля летніх саўгасных заробкаў на лясніцкія, можа, і не вельмі кінуліся б — грошы невялікія, але праца ў лесе давала немалую частку звышлімітнага лесаматэрыялу для саўгаса і — галоўнае — дровы для саміх рабочых. Таму ў лес ішлі ахвотна, за нарад туды ў апошнія гады змагаліся, а тым, хто па ўмовах сваёй працы не мог пайсці з пілой і сякерай, даяркам, напрыклад, ці ўдовам, у хатах якіх не было мужчын, — тым адлічаўся пэўны працэнт, дровы ім шафёры дастаўлялі дадому, па графіку.

Іван працу ў лесе любіў, бо любіў сам лес. А як яго не любіць? У лесе, лічы, нарадзіўся, у лесе вырас, у самую страшную часіну жыцця лес прытуліў яго, ратаваў.

Калі Валя вучылася ў дзесятым класе, то параіла прачытаць яму кнігу з простай назвай "Рускі лес". Валя многа чытала, Карней столькі не чытае, але ён мацнейшы ў матэматыцы, што яго, бацьку, радуе больш.

Кніга здалася цяжкаватай, чытаць яе было працай, а не адпачынкам. Але лекцыю Віхрова аб лесе ён, Іван, перачытваў многа разоў, асобныя мясціны вывучыў на памяць і пасля часам чытаў леснікам, каб дакарыць некаторых за нядбайнасць, за адсутнасць у іх шчырай любові да лесу.

Успомніў ён лекцыю яшчэ ўчора ўвечары, захацелася перачытаць яе. Але кніжку з дому нехта "звёў", пакарыстаўся Карнеевай ці Тасінай дабрынёй. Тут, у лесе, "Рускі лес" успомніўся ад радасці самое работы, ад добрага настрою, якога доўга не было, і ад дум пра дачку.

Рабілі, як сказаў Хведзька Шчэрба, на шырокім фронце: у адным квартале ішла прачыстка маладога сасняку, а воддаль — санітарная высечка ў спелым бары, з сосен якога смакталі жывіцу. Не кожнае дрэва такое высмоктванне перажывае, некаторыя пачынаюць хварэць на сяранку. Руплівы ляснічы спяшаўся іх высечы, каб не даваць прытулку рыжаму пілільшчыку. Заадно ўбіралі частку лісцевых — бяроз, асін.

Іван рабіў у вялікім лесе. "ЗіЛ" яго стаяў на просецы, а ён хадзіў з бензапілой, выбіраў намечаныя тэхнікам дрэвы. Пілаваць — не яго абавязак, у той дзень яму належала вазіць людзям нарыхтаваныя дровы. Але настрой і рукі прасілі работы. Акрамя таго, бензапіла была даручана двум маладым хлопцам, якія нядрэнна вывучылі тэхніку, але слаба ведалі нораў дрэў, *правілы бяспекі такой выбарачнай высечкі*. Трэба ўмець пакласці сасну ці бярозу так, каб яна не завісла, не абадрала жывыя дрэвы, а тым больш не крутнулася і не пайшла ў другі бок, што *бывае небяспечна для саміх лесарубаў*. Тут, як кажуць, варон не лаві, з дрэвам, што набрала інерцыю падзення, не жартуй, сцеражыся. Ён вучыў хлопцаў. Адначасова выбіраў бярозы і сасновыя сухастоіны, з вяршынь якіх можна напіліць лепшых дроў. Першая машына павінна пайсці не з абы-якімі дровамі.

Дзень быў сухі, хоць і хмарны, на дзіва ціхі, бронзавае, зашаршэлае лісце на старых дубах, тое, што застаецца зімаваць і, здаецца, заўсёды трымціць, звініць, маўчала, не гойдаліся верхавіны самых высокіх сосен. Толькі пад нагамі людзей шамацела, шорхала. З тыдзень назад ішоў першы снег, пасля растаў, у полі ўвесь сагнала, а тут, у лесе, застаўся. Лёгкі мароз прыпаяў апалае лісце да сняжку, і пад нагамі гэтая снежналісцвяная скарыначка ламалася з мяккім шамаценнем.

Пакуль не зазвінелі пілы, цішыню лесу парушыла стракатанне соек — добрынцы дзівіліся, што такое мноства соек сабралася ў адным месцы, выказваліся здагадкі, што іх магло прыцягнуць у стары лес, звычайна яны любяць малады сасняк. Галасы і пілы спалохалі соек, яны ўсе адляцелі. А сарока лятала за лесарубамі і часам садзілася на тую сасну, якую пілавалі. З лесарубамі яна размаўляла як бы лагодна і разважліва. А на трактар, які траляваў бярвенне на просеку, вельмі злавалася: лятала над ім, біла крыламі і, здавалася, ажно плявалася. Гэта ўсіх забаўляла, смяшыла. На трактары рабіў Шчэрба — машына яго была ў капітальным рамонце. Ён даводзіў, што сарока гэтая — тая самая зладзейка, што жыве ў яго на падворку, яна аднойчы ўкрала і выпіла пляшку "чарніла", якую ён, Хведзька, схаваў ад Любы, пасля чаго адносіны сарокі з ім сталі падобнымі на яго адносіны з жонкай: сарока патрабуе таго, чаго ён не можа даць, бо і сам любіць тое ж.

Нястомны сачыніцель, "залівала", Шчэрба смяшыў усіх лесарубаў. Паказваў сароцы кукіш, і тая сапраўды стракатала з зацятасцю сварлівай бабы. Шчэрба пасылаў ёй услед такія пажаданні, што хлопцы хапаліся за жываты. Іван таксама смяяўся. Івану было хораша. Даўно ўжо ў яго не было так спакойна і светла на душы. Застаўшыся адзін, ссякаючы галлё на паваленай сасне, прагна ўдыхаючы родны пах хвоі, ён думаў... пра Забаўскага і Валю. Учора Аляксандр Пятровіч наведаўся да іх і цэлы вечар, пры Тасі, пры Карнею, расказваў пра сябе. Цэлы раман расказаў.

Спачатку ён, Іван, паставіўся да гэтага своеасаблівага сватаўства, да якога з трывогай і хваляваннем рыхтавала яго Тася, з пэўнай скептычнасцю, хоць прыняў госця ветліва. Слухаючы Забаўскага, думаў: "Давай, давай, залівай, гаварыць ты ўмееш. Я паслухаю, але не думай, што развешу вушы, як Тася". Жонку ў думках папракаў, што яна так аддана, так шчыра "глядзіць у рот" перастарэламу жаніху, але ўпотай любаваўся ёю — яе нейкай зусім дзявочай трапяткой усхваляванасці — ажно палала ўся, ажно дыханне ёй займала. Нават тады, калі ён, папрасіўшы на дапамогу Яшку Качана, тагачаснага сакратара сельсавета, прыйшоў сватацца да яе самое, Тася так не хвалявалася, больш смяялася, жартавала, палохаючы яго, руйнуючы спадзяванні, хоць перад тым яны пра ўсё дамовіліся. А за дачку, якая ў той час, дзесьці ў Магілёве, можа збівала абцасы, выступаючы ў танцавальным ансамблі вучылішча, так, дурная, перадрыжала, што пасля да раніцы заснуць не магла.

Але ўчора адбылося штосьці незвычайнае і з ім самім. У нейкі момант Забаўскі сваім расказам як разбурыў плот, што адгароджваў пісьменніка, сакратара парткома, чалавека з універсітэцкай адукацый ад яго, шафёра. Аляксандр Пятровіч раптам як наблізіўся і стаў сваім, вясковым хлопцам, як усе добрынцы, незалежна ад таго, хто з іх што скончыў, кім стаў у жыцці. Зніклі яго, Іванавы, скепсіс, недавер, насцярожанасць. Невясёлую і, безумоўна, шчырую споведзь Забаўскага аб яго легкадумнай жаніцьбе ён слухаў з уважлівай сур'ёзнасцю, якая Тасю і палохала, і радавала: дарэчы, гэтага ён не бачыў, пра гэта Тася сама прызналася ўначы.

Івану падабалася высакароднасць Забаўскага: ніводнага дрэннага слова пра сваю былую жонку, акрамя хіба таго, што яна ахвяра пэўнага асяроддзя, наадварот, вінаваціў сябе, што ў яго, пісьменніка, псіхолага, не хапіла сілы волі, умення, такту адарваць яе ад гэтага асяроддзя, ад дому і анучак, за якія яна трымалася і без якіх, выходзіць, не ўяўляла жыцця. Івану нават трохі пабацькоўску стала шкада гэтае незнаёмай яму Эльвіры, Варкі, як называла яе залвіца. Адначасова ён перажыў радасць, гордасць ад думкі, што яго дзеці не такія, бо і яго жыццё не такое, як у таго бухгалтара. Валі не трэба ні дом, ні шмаццё. Валя — як маці: Тася, акушэрка, з заможнай сям'і, модніца, пайшла за яго, трактарыста, сірату, у якога і штаноў добрых не было, пайшла ў хацінку, у якой траім не было дзе павярнуцца. І кахаць Валя будзе, безумоўна, гэтак жа, як маці, — усё жыццё, з усёй жаночай шчырасцю. І ўпершыню, слухаючы Аляксандра Пятровіча, Іван падумаў, што было б недарэчна,



недаравальна, каб ён, як кулак нейкі, самадур, стаў у дачкі на дарозе, загарадзіў гэтую дарогу, можа, адзіную, якая вядзе да яе жаночага шчасця.

Праўда, пэўны час ён яшчэ супраціўляўся ўнутрана і, ужо баючыся самога сябе, баючыся, што ён скажа не тое, што трэба, з хваляваннем, якое пачало нагадваць Тасіна хваляванне, чакаў, калі сакратар загаворыць пра сватаўство. Але Забаўскі і тут выявіў сябе разумным і па-разумнаму хітрым чалавекам: не стаў ні сватацца, ні гаварыць без Валі пра свае пачуцці да яе. Гэта таксама спадабалася Івану, хоць спалохала і расчаравала Тасю: тая падрыхтавала сябе да сватання.

Пасля расказу Забаўскага пра сябе яны хораша, як блізкія людзі, з поўным узаемаразуменнем пагаварылі пра саўгасныя справы. Толькі Іван асцярожна абыходзіў тэму, ад якой балела, — пра паліцая. Аляксандр Пятровіч, безумоўна, адчуў, зразумеў гэта і таксама не дакранаўся да балючага. Пад канец іх позняга цвярозага застолля — выпілі пляшку віна — Тася зразумела, што адбылося самае важнае — яны паразумеліся, душэўна зблізіліся, Іван прызнаў будучага зяця, а таму паспакайнела і павесялела.

А пасля ўначы, у ложку, шчаслівая Тася пачала гаварыць так, быццам сватаўство адбылося і ўсё ўжо вырашана, — з матчынай клапатлівасцю прыкідвала, што Валі трэба набыць, хоць пра вяселле старалася не ўспамінаць.

Іван разумеў яе жаночую хітрасць, яе боязь, каб ён няўдалым словам не заліў яе радасны агонь, і ашчаджаў гэты агонь і радаваўся таксама — ад Тасінай радасці, у цемры пасміхаўся, толькі з ласкавай дакорлівасцю казаў: "Спі ты, завадная. Во няма на цябе ўгамону".

**Іван ШАМЯКІН**

...Дрэвы, што прызначаліся на дровы, бярозы і асіны, Шчэрба траляваў з глыбіні квартала на просеку нераспілаваныя, толькі збольшага ачышчаныя ад галля. Тут, на просецы, двое сталых рабочых лясніцтва пілавалі іх на метроўкі і складалі ў шуркі — для замеру.

Іван прасачыў, каб для першай машыны, якую ён павязе, Хведзька падцягнуў толькі бярозы-сухастоіны. Шчэрба ахвотна выконваў Іванавы ўказанні, але, як заўсёды, бурчаў:

— Ета ты стараешся для той заразы, якая мяне ўсюды крыцікуе? Во шчэ адна піла! Не я вязу, а то я прывёз бы ёй дроў, загавелася б яна з імі. Плакалі б яе дровы сінімі слязамі, і яна разам з імі.

"Зараза" — Вольга Даніленка, дачка партызана, лепшая работніца, адна з тых жанчын, якая не праходзіла міма ніякіх непарадкаў і нікому не давала паблажкі. Сам Астаповіч яе пабойваўся. Але якая гаспадыня не хоча мець дровы, з якімі б не ведала бяды? Вольга сама папрасіла Івана: "Карнеевіч, пастарайся прывезці не гнілля і не макроцця".

Іван стараўся з усёй шчырасцю.

Замер дроў, ды яшчэ пры такой рабоце, калі не паспявалі скласці шурку, як яе грузілі ў кузаў, вёўся на вока, да таго ж лесатэхнік цалкам давяраў сваім, саўгасным, гэта не якія-небудзь гараджане, якія па-чалавечы і ўкрасці не ўмеюць. Добрынцаў, калі яны захочуць украсці, усё роўна не ўпільнуеш, хоць выстаў усю лясную варту. Але ўкрадуць яны так, што свайго лесніка, тэхніка ці ляснічага ніколі не падвядуць, у гэтай справе існуе векавая традыцыя — людзі жылі з лесу, таму кража яго дзіўным чынам спалучалася з любоўю да лесу, з ашчаднасцю да яго дароў: ніводзін добрынец, нават самы зацяты парубшчык, не зробіць тае шкоды, якую можа зрабіць іншы гараджанін з-за простай забавы, дурнога марнатраўства.

Іван нагрузіў бярозавых круглякоў, як кажуць, не шкадуючы рысор.

Па лясной дарозе з выбоінамі і карэннемехаў ціха — усё ж ашчаджаў рысоры і ўсю хадавую частку; машына — што чалавек: не перагружай яе, не тузай — і будзе яна служыць доўга і надзейна.

Любіў ён спяваць на бяседах, дома разам з Валяй. Але найбольш спяваў, калі быў за рулём адзін. З песняй скарачаецца дарога, не хіліць у сон. Ведаў многа народных песень, рускіх, беларускіх, украінскіх, нават дзве польскія і яўрэйскую — аб долі беднай дзяўчыны. Прасіў Валю знайсці, купіць ці запісаць словы новых песень, якія чуў па радыё ці тэлебачанні. Але апошнія месяцы было не да спявання. На бяседы ён не хадзіў, а сон... дык ён не толькі ў кабіне ўдзень, але і ўначы ў ложку не прыходзіў — гналі яго, як злосныя вартаўнікі, чорныя думкі.

А тут ён раптам злавіў сябе на тым, што спявае ціхую, ласкавую песню:

*Зайшло сонца за аконца,*
*За зялёны сад.*
*Цалуюцца, мілуюцца,*
*А хто каму рад...*

І радасна яму зрабілася ад таго, што захацелася спяваць, і да бацькоўскага замілавання было радасна за тую Ганулечку, што "як розавы цвет", і за патрабаванне маці: калі хлопец хоча яе ўзяці, то на цэлы век.

З вялікага лесу выехаў у малады сасняк, пасаджаны гадоў семнаццаць назад пры яго ўдзеле — ён рабіў на трактары разоры. Сасняк гэты як бы абвяргаў сцвярджэнне, што лес расце павольна; тут, на былых пясках, якія Астаповіч, прыйшоўшы ў саўгас, пастараўся спісаць і перадаць лясніцтву, лес рос на дзіва хутка, як чужыя дзеці. Але сосны яшчэ не выйшлі каранямі на дарогу, і была яна, падмёрзлая, прыцярушаная сняжком, роўная — што асфальт.

Іван даў машыне волю; паслухмяная, як жывая істота, яна, здавалася, улаўлівала яго думкі і разганялася ці, наадварот, сцішвала ход да таго, як ён націскаў на педаль акселератара ці на тормаз.

Бліснула наперадзе лужына з патрушчаным лядком, Іван быццам бы не варухнуў ніводным мускулам, не збіў рытму песні, а машына асцярожна, што дзяўчына на абцасіках па кладцы, прайшла па лужыне і адразу ж, весела фыркнуўшы, як напоены стаеннік, рванула ўперад з ранейшай хуткасцю.

Расступіўся сасняк, ударыла ў ветравое шкло святло шырокага неба — машына выйшла ў поле. Іх, добрынскае, поле — ладны трохкутнік, ціснуты лесам; некалі самая бедная зямля, таму і хацеў яе Астаповіч пісаць усю, але не дазволілі, і зямля шчодра аддзячвае цяпер; добра ўгноеная, апрацаваная, не баіцца пад аховай лесу ні ўкраінскіх сухавеяў, ні палескіх лівеняў.

Поле было засеяна азімінай, сняжок сышоў амаль увесь, і жыта ярка, па-веснавому зазелянела, ажно ад яго здавалася пазелянелай нізкая асенняя хмара.

На зялёным фоне, на паваротцы дарогі, вырысоўвалася адзінокая постаць чалавека. Прахожы ішоў у тым жа кірунку, да шашы; са спіны адно — немалады, з рэчавым мяшком за плячамі. Іван падумаў, што гэта нехта з хутаранцаў: толькі ў іх залесную невялікую вёску, бесперспектыўную, як яе называюць у афіцыйных дакументах, не ходзіць аўтобус і хутаранцам, калі няма падарожнай машыны, даводзіцца ісці ажно восем кіламетраў: раней такую дарогу не лічылі за адлегласці, а цяпер — людзі разбуχаліся хадзіць. Але Іван упікаў маладых, што яны лянуюцца хадзіць, кіламетр які ісці, а яны "галасуюць", старых жа заўсёды падвозіў і ўвогуле любіў падвозіць людзей, пасажыры такія ў знак удзячнасці многа расказваюць цікавага. І тутузрадаваўся, што надарыўся выпадак падвезці чалавека. А калі гэта яшчэ сапраўды хутаранец... Да партызанскай вёскі ў яго асаблівыя пачуцці і ўдзячнасць: хутаранцы пахавалі бацьку, не далі бандытам здзекавацца з яго цела. Іван прыбавіў газу, каб хутчэй дагнаць чалавека.

Прахожы, пачуўшы шум машыны, саступіў з дарогі на рунь, спыніўся, павярнуўся. Іван пазнаў... Шышку. Кроў ударыла ў галаву, у сэрца. Ад нечаканасці Іван спачатку затармазіў, так рэзка, што бярозавы кругляк кінула з грукатам на кабіну і далей на капот, трохі не пабіла ветравое шкло. І ўвогуле дровы загрымелі, абрушыліся, напэўна. Але тут жа Іван сцяміў, што недарэчна спыняцца, што лепш як можна хутчэй праскочыць міма гэтага выкапня. Даў поўны газ. Ды ў гэты міг здарылася зусім нечаканае: Шышка пабег па полі, па жыце да лесу. І тады невядомая сіла прымусіла яго рэзка развярнуць машыну, з кузава зляцела не адно палена, і кінуць яе ўслед за паліцаем. Чаму ён гэта зрабіў — не мог пасля растумачыць ні сабе, ні Тасі. Ці то апанавала злосць, што гад топча, паганіць сваімі бруднымі нагамі іх жыта, святое жыта, ці то штурхнула агідная да жывёльнага страху паліцая: баязлівую заўсёды хочацца даць па карку, напалохаць яшчэ больш.

Цяжка нагружаная машына, трушчачы тонкую скарынку намёрзлага грунту, прабуксоўваючы, натужна завыла. Ды ўсё роўна ён дагнаў бы Шышку праз сотню метраў. Але праехаў ён усяго якія тры дзесяткі метраў, бо ў галаву ўдарыла іншае — да болю, да звону ў вушах цвярозая думка: што ж гэта ён робіць? Хіба ён можа забіць чалавека, калі нават гэты чалавек — Шышка?

Іван спыніў машыну, выключыў матор і ў знямозе, абліты халодным потам, адкінуўся на спінку сядзення, чуючы сваё сэрца ў кожнай часціне цела, у кожным пальцы рук і ног, якія спачатку захаладалі, а потым запаліла іх, як агнём.

А Шышка ўсё бег. Без аглядкі. Спыніўся на ўзлессі і... пагразіў адтуль кулаком...

"Полымя" № 12, 1972



Я. БРЫЛЬ, М. АЎРАМЧЫК і М. СТРАЛЬЦОЎ.

**Максім ТАНК**

## УЗЫХОД СОНЦА

*Раней за ўсіх прысніцца пеўням*
*дзень.*
*Але ніхто ім веры не дае.*
*Адна старая маці, іх пачуўшы,*
*Прачнецца,*
*качаргу сваю разбудзіць,*
*У прыпечку раздзьмухае агонь,*
*Хлеб перахрысціць, пакладзе*
*на стол.*
*А потым*
*чарада аблокаў*
*Зацепліцца, бы песня жаўрука,*
*І бусел — вартавы вясковы —*
*Дастане дзюбай сонца,*
*памацае*
*Ды перадасць пабавіцца малым.*
*Пакуль яно з няшчыльнага*
*гнязда іх*
*Не зваліцца на прызбу*
*нашай хаты*
*І не рассыплецца пчаліным*
*перазвонам,*
*Кляпаннем кос і звонам*
*берасцянкі.*
*Цікава, ці ўсё гэтаксама сонца*
*І сёння ў маёй Пількаўшчыне*
*ўсходзіць?*

## ХОЦЬ РАЗ У ГОД

*Трэба,*
*Хоць раз у год,*
*Прайсці басаnож баразною*
*за плугам,*
*Каб аднавіць*
*Сваю даўнюю сувязь з раднёй —*
*Зямлёй, камянямі, травой.*

*Трэба,*
*Хоць раз у год,*
*Наведаць магазін забавак,*
*Каб прыпомніць,*
*Які быў калісьці ты сам,*
*Каб дарунак купіць малому,*
*Бо хто ведае:*
*Мо за капеечную ракету тваю*
*Ён некалі чалавецтву падорыць*
*Галактыку шчасця.*

*Трэба,*
*Хоць раз у год,*
*Наведаць магільнік,*
*Каб пераканацца,*
*Што ты не назаўсёды прыпісан*
*Да гэтай зялёнай планеты*
*Ці нейкай пасады.*
*Бо нават тыя,*
*Што спачылі пад эпітафіямі*
*мармуровымі,*
*Пад бронзаю рэквіема,*
*У трыумфе вянкоў і прамоў,*
*Калі па сабе*
*Не пакінулі добрую памяць, —*
*Былі выпадковымі толькі*
*Прахожымі.*

"Полымя" № 9, 1969

**Пімен ПАНЧАНКА**

***

*Апошні дзень вясны і першы лета.*
*А дзе мяжа?*
*Мяжы такой няма.*
*І ў сцюжу нечай ласкай ты*
*сагрэты,*
*І ў спёку жыгане цябе зіма.*

*Усё жыццё:*
*Юнацтва, сталасць, старасць —*
*Свае адзнакі ў нас пераплялі.*
*Як юнакі, цяпер мы часам марым,*
*А ў маладосці сталымі былі...*

*Клянёмся, што жывём усе*
*мы дружна,*
*Ды першы друг мой дом зусім забыў,*
*Другі застыў у сытым*
*раўнадушшы,*
*А трэцяга і сам я разлюбіў.*

*Ідуць гады,*
*Рады сяброў радзеюць,*
*А новых мне, напэўна, не знайсці...*
*На скверах клёны ціхія ірдзеюць,*
*І хутка цёмным сіверам гусці.*

*Таму хачу надыхацца, нагледзецца,*
*Напрацавацца да апошніх сіл,*
*Пакуль не пахісне мой небасхіл*
*Зімы няўмольнай злая галаледзіца...*

*Жыццё ў бядзе і радасці — адзінае.*
*Пакой мой заліло*
*Святло такое дзіўнае:*
*То дзеці лісця жоўтага назносілі.*
*Апошні летні дзень*
*І першы — восені.*

"Полымя" № 10, 1974



А. КУЛЯШОЎ і П. ПАНЧАНКА. 1975 г.

ПОЛЫМЯ

-часопіс

80 год

(Працяг. Пачатак на стар.2,4,6)

Юрася Свіркі
Рыгора Семашкевіча
Анатоля Сербантовіча
Янкі Сіпакова
Яна Скрыгана
Міхася Стральцова
Максіма Танка
Паўлюка Труса
Нэлі Тулупавай
Андрэя Федарэнкі
Уладзіміра Хадыкі
Аркадзя Чарнышэвіча
Міхася Чарота
Кузьмы Чорнага (у тым ліку аповесці "Вясна", "Люба Лук'янская", раманы "Трэцяе пакаленне", "Пошук будучыні", "Млечны шлях")
Івана Чыгрынава
Івана Шамякіна (у тым ліку раманы "Глыбокая плынь", "Крыніцы", "Сэрца на далоні", "Снежныя зімы", "Атланты і карыятыды", "Вазьму твой боль", "Петраград — Брэст")
Станіслава Шушкевіча
Алеся Якімовіча
Яўгеніі Янішчыц
Фёдара Янкоўскага.

Друкаваліся літаратурна-крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы

Алеся Адамовіча,
Сцяпана Александровіча,
Серафіма Андраюка,
Варлена Бечыка,
Дзмітрыя Бугаёва,
Рыгора Бярозкіна,
Уладзіміра Гніламёдава,
Івана Замоціна,
Віктара Каваленкі,
Уладзіміра Калесніка,
Генадзя Кісялёва,
Анатоля Клышкі,
Алега Лойкі,
Адама Мальдзіса,
Міхася Мушынскага,
Юльяна Пшыркова,
Вячаслава Рагойшы,
Янкі Саламевіча,
Алы Сямёнавай,
Міхася Тычыны,
Рыгора Шкрабы,
Уладзіміра Юрэвіча
і інш.

У часопісе друкаваліся

В. Г. Кнорын,
П.К. Панамарэнка,
А.Р. Чарвякоў,
В.І. Казлоў,
П.М. Машэраў
і іншыя дзяржаўныя і грамадскія дзеячы.

У 1972 г. часопіс "Полымя" ўзнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны".

(Заканчэнне на стар.10)

## ГІСТОРЫЯ "ПОЛЫМЯ" — ГЭТА ГІСТОРЫЯ НАШАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Пятро ГЛЕБКА**

### ДАСЭНІ

*І словы забываюцца, не толькі*
*справы...*
*А ў памяці маёй яшчэ жыве*
*яскравы*
*Малюнак прадвясенні ціхі,*
*Калі руплівыя вясковыя ткачыхі*
*Марылі, Кацярыны і Аксені*
*Будзілі ўдарамі набіліц ранак,*
*Выдатныя ткалі дасэні.*

*А выткаўшы нітоў у восем-дзесяць,*
*На азяродзе іх сушыць павесяць*
*Або бяліць на поплаве пасцелюць,*
*І тыя ўзорамі сваімі цвеляць*
*І неба сіняе, і лугавыя кветкі,*
*І белыя сады, і жоўтыя палеткі.*
*Цяпер забыўся нават тэрмін*
*той — дасэні.*

*Забылася цяпер і слова ёмкае —*
*дасэні,*
*Якое бабкі нашыя Аксені*
*Ці маладыя дочкі іх Марылі*
*Адна другой як тайну гаварылі.*

*Але я дбаю тут не пра старое*
*ткацтва,*
*Мяне цікавіць нашае,*
*маё мастацтва —*
*Мастацтва слова. І я сабраў*
*адну-дзве жмені*
*Старой паэтыкі дасэні.*

"Полымя" №7, 1980



У музеі. В. Зуёнак, П. Макаль, К. Камейша, Я. Шунейка, Я. Брыль, Д. Бічэль, Х. Лялько, Ю. Голуб, А. Карпюк, Г. Пашкоў і М. Пракаповіч. 1985 г.

**Кастусь КІРЭЕНКА**

### МАЦІ І ЖЫТА

*Маці і жыта.*
*Два словы і два дарагія паняцці, —*
*І нараджэнне, і поўня жыцця —*
*захаваныя ў іх.*
*Маці і жыта. Жыта і маці.*
*Двойчы — і ў сэрцы,*
*і ў думах маіх.*

*Помню маленства гады,*
*час ліпнёвы бясхлебны.*
*Маці кладзе на плячо*
*паржавелы сярпок.*
*Ціха касу папраўляе*
*пад хусткаю зрэбнай*
*І прамаўляе ўздыхнуўшы:*
*— Пойдзем, сынок...*

*І, аббіваючы росы,*
*ступою павольнай*
*Крочым мы ў поле*
*аж пад небасхіл —*
*да канца*

*Ціхай дарожкі*
*на ўзлессі прывольным,*
*Дзе на палосачцы вырасла*
*грыўка жытца.*

*Час той — далёкі...*
*З явы сышоў ён вясковай...*

*Але і зараз —*
*у кожны свой міг, як тады,*

*Чую ўсім сэрцам*
*водар п'янлівы жытнёвы,*
*Смак той жытнёвы,*
*што не забыў праз гады.*

*Перш чым зажаць на вязьмо*
*жменю жыцінак кволых, —*
*Помню, адломвала маці*
*ад іх каласок.*
*І, памаўчаўшы хвіліну,*
*з тугой невясёлай*
*Мне падавала:*
*— Сілкуйся, сынок...*

*З прагай вылушваў я*
*цёплыя, мяккія зерні,*
*Дыхаў іх пахам,*
*паціху здзімаў асцюкі...*
*Не, не было аніколі,*
*няма і цяпер мне*
*Дару такога,*
*як той быў —*
*з мазолістай любай рукі.*

*Многа гадоў адплыло,*
*многа дзей пераежыта.*
*Многа і шчасця, і радасці*
*стрэў у жыцці.*
*Ды над усім і заўсёды*
*МАЦІ І ЖЫТА —*
*Найдаражэйшае шчасце,*
*лепш не знасці.*

*Зараз, калі зажынаю*
*даспелую ніву*
*Жыта свайго,*
*дзе мяжа не відна, —*
*Бачу маці сваю*
*У задуме руплівай*
*І ў дні нягоды*
*быць мужным хачу, як яна.*

*Што ні спаткала б мяне,*
*ліхаманка якая, —*
*Помню маці плячо,*
*паржавелы сярпок.*
*Помню голас яе*
*і заўсёды чакаю,*
*Што прагучаць зараз словы:*
*— Пойдзем, сынок...*

*І якія б у свеце*
*ні спакушалі багацці,*
*Найбагацейшага скарбу*
*для мяне ў гэтым свеце няма...*
*Маці і жыта. Жыта і маці.*
*Жыццё маё.*
*Радасць. Натхненне.*
*Песня сама...*

"Полымя" № 8, 1980



П. Макаль на літаратурнай вечарыне ў Салігорску 1977 г.

**Аляксей ПЫСІН**

*Што світанне ў вербах тоіць,*
*Што малюе цень сасны?*
*Толя, Толя Сербантовіч*
*Узыходзіць з баразны.*

*Быццам бы шаптанне дрэва,*
*Быццам выдых позніх траў:*
*— Шкадаваць мяне не трэба,*
*Сам я іншых шкадаваў.*

*Вось яршысты ўжо, як выклік,*
*Вось і мае кулакі:*
*—Не глядзі, што ты вялікі,*
*Я не дам табе рукі!*

*Хто прад ім — змрок несагрэты,*
*Ўяўны друг ці нават бог?*
*З кім ваюе, з кім дагэтуль*
*Прымірыцца ён не змог?*

*Анікога ў чыстым полі*
*Пры сасне і пры вярбе.*
*Сербантовіч,*
*Толя, Толя,*
*Проста*
*ўспомніў я цябе...*

•

*Ёсць на свеце мой алень,*
*Ёсць і гэткае маленне:*
*Будзь заўсёды у аленя,*
*Цёмны мох і светлы дзень!*

*Вы, разумныя браты, —*
*Я і сам страляць умею —*
*Дайце жыць майму аленю*
*Пад галінкай дабраты.*

*Вось у цішыні лясоў*
*Ліст трапеча счырванелы.*
*Можа, гэта страх аленя*
*Тут асінкаю ўзышоў?*

*Я іду, іду між дрэў*
*Па асінавай алеі.*
*Мне пабачыць бы аленя...*
*Зноў я чую блізкі стрэл.*

"Полымя", № 10 1972

**Уладзімір КАРЫЗНА**

### ВЯСНА

*То сонца дзень усмешкай*
*распагодзіць,*
*Жаўрук аж заліваецца — звініць.*
*То, як мядзведзь пасля зімы*
*ў бярлозе,*
*Варочаецца гром у вышыні.*
*Рака ў высокіх берагах гуляе,*
*Як сом хвастом, плёхае ўвесь дзень.*
*Пупышкі ціха вочкі раскрываюць,*
*Каб на вясну з узгорка паглядзець...*
*І шчодра плечы ліпам і бярозкам*
*Вясна зялёнай фарбай абліла.*
*А хутка з першай кветкаю*
*за вёскай*
*Ад шчасця пацалуецца пчала!*

"Полымя" № 5, 1959

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

## ПЕРШАЕ КАХАННЕ

*Я першую каханую сваю*
*Не зваў на "ты", не цалаваў,*
*не песціў,*
*Я рады быў, што побач пастаю*
*Ці зноў прыду на тое ж месца,*

*Дзе толькі што смяялася яна,*
*Дзе толькі што яе ляжалі рукі.*
*І першага кахання навіна*
*Была пачаткам радасці і мукі.*

*Я сніў яе, а потым, як у сне,*
*Убачыў — каля нашага паркана*
*Яна ішла, мінаючы мяне,*
*Не бачачы, што побач — закаханы.*

*Яна прайшла, як сонечны прамень,*
*Над часам, над разлукай, над вайною.*
*У самы цяжкі і суровы дзень*
*Яна ішла, здавалася, са мною.*

*І ёй заўжды было семнаццаць год,*
*Яна мне ўяўлялася такою,*
*Што ад яе вачэй растане лёд,*
*І сэрца не знаходзіла спакою.*

*І вось сустрэў каханую сваю —*
*Знаёмы твар, але патухлі вочы.*
*Не, гэта не яна, яе не пазнаю,*
*Як вершы, што пісаў мінулай ноччу.*

**"Полымя" № 2, 1959**

**Антон БЯЛЕВІЧ**

## СКРЫПКА

*Падпяразваўся дзядзька пілою,*
*Выпраўляўся ў закутак лясны.*
*Там прапах і карой, і смалою,*
*І чаромхавым духам вясны.*
*Там прыкладваў ён чуйнае вуха*
*Да яловых дзябёлых ствалоў.*
*Абушком далікатненька стукаў,*
*Выклікаючы песню без слоў.*
*Ад камля да калючае кроны*
*Тонкі звон пад карою плыве.*
*Па напеўным балючым звоне*
*Дзядзька чуе, дзе скрыпка жыве.*
*А ўжо скрыпка ідзе на вяселлі,*
*На радзіны, на свята вясны.*
*Галасы і сяліб, і аселіц,*
*І крыніц, і закуткаў лясных*
*Прабягаюць па струнах то ціха;*
*То гучней, то на поўны раскат;*
*То пачуецца даўняе ліха;*
*То працяглы пачуецца лад....*

**"Полымя" № 9, 1969**

**Аляксей ЗАРЫЦКІ**

## ПРАВОДЗІНЫ

*Грыміць пагрозлівы няблізкі гром,*
*Сінеюць воддаль хмары, быццам горы.*
*А ў нас праводзіны.*
*Глядзі — кругом*
*Спрэс юнакі,*
*Юнацтва ў поўным зборы.*
*Запаланіла маладосць перон,*
*На ўзлёце песня,*
*Нарастае гоман.*
*На ўсход адыдзе зараз эшалон.*
*Яго праводзім з музыкай і громам.*
*Сталёвы шлях у дальняй старане*
*Вам, хлопцы, весці праз тайгу і горы,*
*Пакуль у вашы твары не дыхне*
*З прыакіяння вецер,*
*З той прасторы,*
*Дзе над Амурам горад маладым,*
*Бацькамі ўзняты некалі ў глухмені,*
*Дзе подзвігі сальюцца назаўжды*
*Двух пакаленняў у адным натхненні.*
*Якую ж трэба пакарыць вам даль,*
*Каб гэты векапомны шлях*
*праклясці!*
*Сыны, нялёгкая ў вас магістраль,*
*Ды будзе плён,*
*Ды будзе дзіва шчасця:*
*Услед за вамі ўстануць гарады,*
*За вамі нівы зарунеюць заўтра,*
*Раскрыюцца радовішчы руды,*
*З зямных глыбіняў густа хлыне*
*нафта.*
*І будзе лепшая з усіх уцех —*
*Там, дзе маўчала скрозь тайга*
*вячыста,*
*Дзіцячы смех, нібыта першы снег,*
*Засерабрыцца гэтак чыста-чыста.*
*Пайшоў цягнік,*
*А я стаю, тужу,*
*Сціскаецца шчымліва сэрца*
*штосьці.*
*І ўсё здаецца мне, што я гляджу*
*Услед маёй трывожнай маладосці.*

**"Полымя" №11, 1974**

# ВЯРТАННЕ ДА ВІНЫ

### УРЫВАК З РАМАНА

**Іван ЧЫГРЫНАЎ**



**XX**

Немцы дакладна адзначалі ў дакументах, як свае перамогі, так і страты. Іншая ўжо справа, як падавалася гэта. Але ў дзённіку баявых дзеянняў ахоўных войск таксама дакладна было засведчана, што "ў баі з партызанамі на р. Бесядзь" паранены камандзір руска-нямецкай каманды СС, той самы маёр, які дапытваў Чубара, а потым вазіў на самалёце над Забесяддзем. Канечне, бою вялікага той раз на Бесядзі не адбылося. Аднак маёр Дарніц усё-ткі быў падстрэлены, з усяго карнага атрада адзін камандзір. Па яго тут жа прыляцеў з Бабінавічаў самалёт, забраў і кудысьці павёз.

Зазыба тады не адразу вярнуўся да месца засады партызанаў — трэба ж было прамчаць на кані Верамейкі ва ўсе канцы, каб падняць людзей, затым паспяшацца ў Мамонаўку, у Кулігаеўку... Ну а пасля, вядома, падаць голас і ў Гутцы, і ў Воранаўцы, і ў Кавычачах. Паўсюдна ж людзі! Словам, страляніна на Бесядзі як усчалася без Дзяніса Яўменавіча, так і скончылася. Пасля ўжо Нарчук расказаў Зазыбу: партызаны падкраліся да ракі непрыкметна, спыніліся крокаў за дзвесце ад броду. Увесну ў тым месцы звычайна ўтвараюцца глыбокія вымоіны, акурат дзюны на беразе мора, — чым не гатовыя траншэі для вайны? У іх і заселі партызаны, маючы за спінамі лес для адыходу, а спераду каржакаватыя вербы для абароны ад куляў. З засады правы бок Бесядзі выглядаў як на далоні: вёска стаяла на стромым беразе, уздоўж ракі, дарога з Бабінавічаў спускалася крута, але катлавіна з адкрытым прырэчным бокам была вялікая. Механізаваная галава калоны тым часам ужо стаяла ля краю вады, хоць з гары ўсё яшчэ спускаліся іншыя падраздзяленні эсэсаўскай каманды, збочвалі з дарогі, запаўняючы такім чынам катлавіну. Можна было падумаць, што карнікі збіраліся стаяць там лагерам. Прынамсі, Нарчуку ў бінокль было відаць, як некаторыя салдаты — і немцы, і добраахвотнікі — разбягаліся па вусаўскіх дварах, шнарылі па падворках і хлявах, хапаючы, што трапляла пад рукі — дзіва што, звычайныя рабункі акупантаў. Ды не так. Каля пераправы раптам у суправаджэнні двух немцаў паявіўся нейкі мясцовы мужык з доўгім боўталам у руцэ, усё роўна як ішоў лавіць рыбу, скінуў штаны і пачаў мераць ад таго да гэтага берага раку. Немцы стаялі на мокрым пяску, штосьці падказвалі яму, тыцкаючы рукамі то ў адзін, то ў другі бок. Адбывалася гэтае сноўданне амаль паўгадзіны. Але вось мужык вылез з вады, схапіў свае штаны, якія перад тым павесіў на корань, што вытыркаўся з высокага схілу, стаў нацягваць на мокры зад. Немцы на тым беразе заварушыліся. Нарэшце пярэдні грузавік зрушыўся з месца, уехаў у ваду і нібыта паплыў па Бесядзі. Здавалася, ён так і пераедзе свабодна на гэты бок ракі, але ж нездарма кажуць — чужая рака як нерат: метраў за дваццаць ад берага грузавік раптам зачмыхаў, пускаючы дым над вадой, спыніўся. Было відаць, як шафёр у кабіне нейкі час спрабаваў яго раскатаць, націскаючы на газ і пераключаючы хуткасці, аднак дарэмна, добра, калі грузавік толькі торгаўся. Тады з кузава з-пад тэнта пачалі саскокваць салдаты, не скідаючы з сябе адзення. Тым часам наступны грузавік таксама ўжо знаходзіўся ў рацэ, патроху набліжаўся да першага. Нарэшце салдаты выпіхнулі грузавік з каўдобіны, у якую трапілі колы, лічы, на руках панеслі з вады на сухое. І ў гэты момант Мітрафан Ануфрыевіч махнуў партызанам рукой. Першы ўдарыў па машынах кулямёт, за якім ляжалі Павел Чарнагузаў і Андрэй Марухін, дарма што кулямётчыкам у атрадзе быў акружэнец Дзям'ян Кажанаў, але той захварэў і цяпер заставаўся ў Шурышчы. За кулямётам пасыпаліся вінтовачныя стрэлы. Але на тым беразе Бесядзі ўсё роўна як не чакалі засады. Тыя немцы, што выпіхвалі грузавік з каўдобіны, ад гэтай нечаканасці папрысядалі ў вадзе, круцячы галовамі. З другога грузавіка ніхто не выскокваў, але ён таксама спыніўся. Як і бывае ў такіх выпадках, якія наступаюць пасля бяспечнасці, у катлаване раптам запанавала збянтэжанасць. Стралялі пакуль адны партызаны. Але паколькі яны меціліся па грузавіках і па тых, хто апынуўся ў вадзе, у катлаване ачомаліся даволі хутка. Няйначай, там раздаваліся каманды, бо ўжо праз нейкі момант пачуліся стрэлы і з таго боку. Стралялі з вінтовак. Канечне, палілі немцы ўсляпую, не бачачы праціўніка, але кулі тым не менш цыўкалі якраз там, дзе размяшчалася партызанская засада. Колькі хвілін працягвалася звычайная перастрэлка. Праўда, партызаны бачылі перад сабой праціўніка, нават паасобку. Немцы ж рабілі гэта сапраўды невідушча, па гуку. Але неўзабаве з іхняга боку паляцелі міны. Дарэчы, за імі можна было сачыць, пакуль яны пералятвалі з аднаго берага на другі. Шчасце, што ўсе яны пакуль падалі між вербаў, дзе заляглі партызаны. Здавалася, гэтае няведанне мэты будзе працягвацца ўвесь час. Аднак паступова адлегласць пачала скарачацца, і вось нарэшце першая міна выбухнула пасярод партызанскай засады. Спярша абрынулася на зямлю адна вярба, затым другая... Партызаны ўціснуліся ў белы пясок, перасталі страляць. Мітрафан Ануфрыевіч хоць і ляжаў у яміне, якая магла засланяць ад куль, але разумеў, што ад мін гэта не абаронца, між тым сёй-той з партызанаў перабягаў ужо з аднаго месца ў другое. Неабходна было выводзіць людзей з небяспечнай зоны. Аднак з камандай ён марудзіў. І ажно да таго моманту, калі яна стала не патрэбнай. Перабягаючы з аднаго месца ў другое, партызаны неяк зусім непрыкметна самі пакінулі небяспечную зону, і камандзіру давялося адыходзіць апошняму. Зусім не змаўляючыся, сышліся пад тыя ж дубы на беразе Бесядзі, адкуль ішлі на засаду. Немцы тым часам не перастававалі абстрэльваць левы бераг да самага лесу.

— Ну што, пачакаем іх цяпер тут? — з не меншым узбуджэннем, чым іншыя, спытаў партызанаў Нарчук: першая сутычка з ворагам усё роўна як абнадзейвала, што і далей гэтак лёгка будзе ўнікаць ад небяспекі ў лесе.

— Пачакаем, пачакаем, — загаварылі ў адказ партызаны, аднак захаплення вялікага на тварах ні ў каго не было.

І тым не менш Нарчук аддаў загад размяшчацца абапал дарогі, што вяла ў Верамейкі. Партызаны заляглі, сцішыліся. Вусаўскі катлаван і адсюль добра прагледжваўся ў бінокль, але што рабілася на Бесядзі, не было бачна. Праз хвілін колькі спыніўся мінамётны абстрэл. Ужо не стралялі адтуль і з вінтовак. Аднак карнікі па-ранейшаму знаходзіліся ў Вусаўцы. У кожным разе, у бінокль Нарчуку было відаць, што ўсё там заставалася на ранейшым месцы. Да таго ж не надта лёгка можна было рассеяцца з катлавана. Адна справа ўвайсці ў яго, зусім іншая паварнуцца і выйсці. А тым больш, калі і мэты такой не ставіць. Як хто, а Нарчук чамусьці не верыў, што немцы адмовяцца ад пераправы на гэты бок. І тым не менш у варожым стане адбылося замяшанне. Як пасля высветлілася, адна з куль патрапіла ў камандзіра карнага атрада. Хутка па яго прыляцеў самалёт з Бабінавічаў. Партызанам было відаць, як садзіўся ён за вёскай, як затым узляатаў, а немцы ўсё заставаліся ў Вусаўцы. Тым часам чакаць — не даганяць, дарма што іншы раз кажуць, што гэта амаль адно і тое ж. У гэты дзень карнікі не адважыліся пераадолець Бесядзь, не зрушылі з месца і тады, як праз гадзіну наляцелі на Забесяддзе самалёты і пачалі бамбіць верамейкаўскі бераг ад ракі да лесу.

•

Тым не менш партызаны заставаліся каля верамейкаўскай дарогі да самага вечара. Тут іх і знайшоў Дзяніс Зазыба, які вярнуўся пасля ад'езду навакольных вёсак:

— Можа, яшчэ й дарэмна людзей успалашылі, — сказаў камандзір атрада Дзянісу Яўменавічу. — Бачыш, немчура прыціхла. Панюхала трохі дый стаіць амаль цэлага паўдня ў Вусаўцы.

— Думаеш, супакоіцца?

— Можа, да заўтрага, — няўцям паціснуў плячамі Нарчук. — Але штосьці не падобна. Нешта большае мы сёння парушылі.

Мітрафан Ануфрыевіч меў рацыю. Ужо ў цемры з Вусаўкі вярнулася разведка — аказваецца, удзень партызаны падстрэлілі камандзіра эсэсаўскай каманды, і цяпер немцы пакідалі вёску. Партызанскаму атраду заставацца каля Бесядзі таксама не было сэнсу. Ва ўсякім разе, не вісець жа ластаўчыным гняздом тут над ворагам. Да таго ж не надта верылася, што немцы паварочвалі назад у Бабінавічы дзеля нейкага часовага манеўру. Страта камандзіра, няйначай, падзейнічала на іх. Таму пасля разваг партызаны недзе апоўначы вырашылі зняцца з засады. Нарчук павёў атрад у лагер. Зазыба, аддаўшы каня партызанам, падаўся дамоў у Верамейкі пешкі.

— Я па цябе прышлю, калі што, — сказаў яму наўздагон, акурат суцяшаючы, Мітрафан Ануфрыевіч. На другі і на трэці дзень у Верамейкі даходзілі чуткі, што карнікі яшчэ стаяць у мястэчку. Потым стала вядома, што ўся змешаная каманда СС нарэшце выступіла кудысьці за Камароўчыну, дзе канчалася Беларусь і пачыналіся заходнія землі Арлоўшчыны. Людзі ў Забесяддзі ўздыхнулі ад гэтага з палёгкай, сталі зноў уваходзіць у звыклую каляіну сялянскага жыцця — найперш трэба было падганяць перад жнівом летнія работы, якія яшчэ заставаліся ў ліпені, а тады ўспомнілі раптам, што трэба рыхтавацца да паездкі ў Бабінавічы хрысціць дзяцей; і тых, што нарадзіліся ўжо ў вайну, і тых, што бегалі ў вёсцы нехрышчоныя ад савецкай улады.

**"Полымя" № 12, 1992**

**ГІСТОРЫЯ "ПОЛЫМЯ" — ГЭТА ГІСТОРЫЯ НАШАЙ ЛІТАРАТУРЫ**

**ПОЛЫМЯ**

*-часопіс*

*80 год*

**(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2, 4 ,6, 8)**

**Міхась Лынькоў. "Шляхам жыцця"**

**Некалі, да рэвалюцыі, беларуская літаратура разглядалася як пэўная этнаграфічная з'ява. У нашы дні яна стала здабыткам шматмільённага чытача... Усё лепшае, што створана за мінулыя гады ў беларускай літаратуры, атрымала — за невялікім выключэннем — чытацкае прызнанне, сваё, так сказаць, хрышчэнне на старонках "Полымя".**

**Сам факт з'яўлення твора маладога пісьменніка не лічыўся пэўным прызнаннем яго таленту, сведчаннем майстэрства.**

**З'яўленне першых нумароў часопіса красамоўна сведчыла, што ў Беларусі нараджаўся шырокі літаратурны рух. Актывізавалі сваю творчую дзейнасць пісьменнікі, што працавалі яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады: Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Уладзіслаў Галубок, Максім Гарэцкі, Канстанцыя Буйло. Ішло ў беларускую літаратуру новае багатае папаўненне. То было пачаткам буйнога росту пісьменніцкай арганізацыі.**

**Часопіс "Полымя" яшчэ ў 20-х гадах набыў шырокую папулярнасць сярод чытачоў, атрымаў прыхільныя водгукі ў тагачасным цэнтральным і рэспубліканскім друку... У адной з рэцэнзій "Маладняка" за 1927 год чытаем: "Ужо даўно перамагло "Полымя" ўсе перашкоды і стала галоўным рэгулярным часопісам беларускай культуры і палітыкі".**

**У першым нумары часопіса "Полымя" ў снежні 1922 г. была апублікавана дэкларацыя, у якой гаварылася, што часопіс з'яўляецца органам рэвалюцыйнай марксісцкай думкі. Нездарма некалькі год ён насіў назву "Полымя рэвалюцыі".**

**...Часопіс "Полымя" ніколі не стаяў убаку ад жыцця народу. Яго інтарэсаў і запатрабаванняў... На яго старонках, як па дакладным летапісе, мы можам прасачыць шлях нашага народа...**

**Часопіс быў адным з найважнейшых сродкаў сувязі нашай літаратуры з літаратурамі братніх рэспублік... з прагрэсіўнымі пісьменнікамі свету... Праз пераклады на беларускую мову часопіс знаёміў сваіх чытачоў з лепшымі творамі пісьменнікаў братніх народаў. Прагрэсіўных пісьменнікаў усяго свету. ... На старонках "Полымя" часта друкаваліся пераклады з рускай класічнай і сучаснай савецкай літаратуры. Можна прыгадаць творы Пушкіна, Гогаля, Талстога, Горкага, Чэхава, Маякоўскага, Твардоўскага, Ціханава, Пракоф'ева і іншых найбольш папулярных аўтараў. Шмат было перакладаў з твораў украінскіх пісьменнікаў, у першую чаргу з твораў Тычыны, Рыльскага, Вішні, Ганчара, Карнейчука, перакладаў з грузінскай, літоўскай, латышскай, узбекскай і іншых літаратур Савецкага Саюза...**

**На старонках "Полымя" друкаваліся творы польскіх і яўрэйскіх пісьменнікаў, якія жылі і працавалі ў Мінску.**

# АЛІМПІЯДА

## УРЫВАК З РАМАНА

Перадавалі апошнія паведамленні. Мужчынскі голас — аж шорах па спіне — гаварыў пра падзеі ў Чэхаславакіі. Але рэпрадуктар раптам хліпнуў і замёр; суровы мужчына аціх на паўслове, як усё роўна яго хто тузануў за руку — не трывож людзей. У хаце зноў зрабілася ціха — чыкалі толькі ходзікі, звінела нешта на ферме — усе маўчалі: чакалі. Але рэпрадуктар застыў на сцяне — зрабіўся нямы і, здавалася, халодны.

— Не пужайся, Антонавіч... Мы знаем, куды спяшым... — першы загаварыў Корань, падмігваючы на хату. І голас нават перамяніў. — Скажы вот, што будзе? Што там, — кіўнуў ён галавой на рэпрадуктар, — такое робіцца, калі ты такі мудры і ўсё пастаянна ведаеш? Важданіна на свеце. Заварушыліся, як ты гаворыш, мурлахапенькія...

— Што я табе, хлапец, скажу? Я паўтару тваю ісціну: жылі мы і жыць будзем. А людзі гора цяпнуць. Гэта адно. Запомні. А другое... — Пугач глыбака ўздыхнуў. — Я помню, як было перш. Раней... Раней у вёсцы што? Аралі, сеялі, малацілі. Ніякіх табе прыёмнікаў, цілівізараў. Ніхто ніколі не знаў, хто куды паехаў — у Турцыю ці ў Настурцыю. Ну газеты чыталі, але больш глядзелі, каб у гародзе расло. Ніхто збоку на вуха не мурлыкаў. І на душы спакайней было. Паслухай мяне, старога дурня. Менш думай пра ўсё гэта — даўжэй пажывеш. Менш на сваю галаву бяры, і яна ў цябе ніколі не згарыць, будзе вечная. Перш любая баба глядзела за бабай. Хто як пячэ, як варыць, як з мужыком жыве, як з сярпом на загоне згінаецца. Пра што гаварылі? Пра сябе і сваю жызню. А цяпер? Пстрык кнопкай — і яна ўжо глядзіць, хто ў тую Турцыю паехаў. Вочы выпуліла. Пструк кнопкай — выключыла. А ў галаве ў яе ўжо тая Турцыя сядзіць. Увідзела... І на работу бяжыць з Турцыяй у галаве... А там і другія ў гэтакія глядзелі. Ды ў гэтулькі вачэй... Як дадуць на полі ў языкі, не паспяваюць. Пра работу бабы ўжо не гавораць; дзе хто да каго — не гавораць, бяды ўжо няма; наватадна адну не абгаворваюць — часу няма. Турцыя на языках... Ці яшчэ там чорт які... І з такім відам кожная, што лепш за той цілівізар знае, якога міністра куды паслаць ці паставіць... А ты глядзі, як і перш, баба дурная, што ў гародзе расце, каб па цыбулю ўвосень не ездзіць у горад. Не купляць чужую. Вот што я табе скажу...

— Чалавек так устроены, Антонавіч, што заўсёды настаўляе вуха, каб што новае пачуць. І яму трэба... І сам жа ты, Антонавіч... Хай бы ажаргаў кій, як перш, і ехаў. Дык жа на матацыкле сядзіш. Чалавеку трэба... — Корань падняў руку з відэльцамі — з кружком чырвонай кілбасы на самым кончыку. — І я скора задзяру над хатай жэрдку з антэнай. Пастаўлю тэлевізар. Трэба, Антонавіч, трэба...

— Дык што, Антонавіч, далей стала і не глядзі? Так ніколі не было і не будзе. Мохам парасцём. Я хоць і п'янаваты, а гляджу далей стала... На двор... І маці, вун, седзячы на ложку, глядзіць далей сябе — у горад. Глядзіць і ўсміхаецца. І мая Два метры фанеры дома крычыць кожны раз, калі рэпрадуктар сціхне: "Жыць не магу без радзіва! Як гэта жыць без радзіва?" Падымаецца додніцай — і на ўсю катушку. А то і сама разам горла дзярэ — пяе ўсю раніцу. Перш добра пела, а цяпер скуголіць, як ваўчыца... А ты, Антонавіч, глядзіш назад, калі не хітрыш...

— Што гэта ты, гледзячы ўперад, так на сваю кабецыну ўзваліўся, казларогі чартуляп? Жывіцё, як кот з сабакам. Калі яна хавае ад цябе гэту во штуку, — Пугач паказаў на бутэльку на стале, — то яна ўжо і чорт рагаты?..

— Гэту вотштуку... — Корань пабразгаў відэльцамі па бутэльцы, — яна цяпер хавае ад мяне аж на той свет. Сама ні ў рот, толькі ў гасцях, і ад мяне хавае. Але ад мяне не схаваеш. У мяне, брат, нос... — Корань, выціраючы твар ад поту, узяў быў нос у жменю і зморшчыўся. — Схавала раз яна бутаь самагонкі. Выгнала дома на пліце і схавала. Для гасцей. Ёсць, ну не возьмеш... Усё ў хаце аблазіў, варыўню перавярнуў уверх дном — не знайшоў. Іду вечарам з работы дамоў — дзверы на замку. Палез у кішэню па ключ. Дастаў і ніяк не лучу ў замок, у дзірку. Ключык такі тоненькі, слізенькі. Шмыкнуў з рук і ў шчэлку пад ганак. Трэба ж у хату залезці. Падымаю я дошку з-пад ног — ёсць бутэль. Стаіць халодненькі, і раса на ім выступіла. Тутён увесь і яснее, маць яго так, — думаю. Пайшоў я і клікнуў суседа. Адзін бы рады не даў, ды і не люблю адзін. Удвух мы яго і... Увесь... Ну і ясна — з ног па падлогу. Убегла мая Два метры фанеры ў хату адразу з гальніком. І хвошча нас абаіх, як у лазні, на палку. Я маўчу, кручуся, як вуж пад вілкамі, а сусед — дык той крычыць на ўсю хату: "Не лупі дротам!.. Што ты мяне дротам па твары!". Ну-ну, тады я гора цяпнуў.

— Выдумаў, складна выдумаў, казларогі чартуляп... — Пугач зайшоўся ад смеху, аж слёзы ў яго на вачах выступілі, і доўга круціў галавой. Пасля пачуў, што і Алімпіяда смяецца на ложку. Падцягнула да перагародкі падушкі і села, апёршыся на іх плячыма і спусціўшы з ложка ногі. Дастала з куклы грэбень і прычэсвала спераду ля вушэй і ля лоба валасы. — Нешта я такога не чуў, казларогі чартуляп... Ён і цябе, Уліма, падняў сваімі вытрабенькамі. Гэта ж трэба выдумаць: тая сячэ яго венікам, а ён крычыць — не лупі дротам... Яму здаецца, што яго дротам лупяць. Аж ты, Уліма, павесялела ад яго баек... — Пугач паглядзеў на руку, на гадзіннік, тады падняў вочы на сцяну — на ходзікі. — Чвэртачку яшчэ пасядзім, ранавата... Дарма ты, Уліма, усё гэта выдумала, — Пугач паказаў на стол на бутэльку. — Замучае ён цябе сваімі байкамі, будзеш знаць...

— І ніякая гэта не байкі. Уся вёска знае. А адзін раз, зімой... Наліла яна гэтай самай у чайнік і — у кадзь з капустай. Сховы знайшла. А мне — ну вот хочацца капусты, аж сліна цячэ. Кісленькай такой, халодненькай, з кмінамі з чырвонымі журавінамі.. З морквачкай, парэзанай на скрылёчкі... Месца сабе ў хаце не знаходжу. Узяў я талерку са стала ў варыўню. Адкрыў кадзь, капнуў драўлянай лыжкай — лыжка ў кадзі стаўма стаяла — э-не!.. Чайнік з рыльцам. І выпіўка і закуска. Усё на месцы. Пацягну з рыльца, колькі трэба, і закушу. Закушу і пацягну. Табе, Антонавіч, — Корань махаў відэльцамі, — усё байкі, анекдоцікі... Было! Не паверыш? Дні два прайшло пасля той кадзі, чайнік яшчэ з галавы не выветрыўся — прыехалі ў калгас шэфы з трактарнага. Яны ў нас і зімой і летам, і сеюць за нас, і малоцяць. А той раз прыехалі даваць канцэрт, аж на двух аўтобусах. Свята было, ці што. На вечарынкі і на канцэрты я ўжо не хадок, а тут цягне. Ну — як магнэсам. Вот карціць за парог нагу паставіць — і ўсё. Не пойдзеш жа да людзей абшмальцаваны адразу пасля работы. Забегся я дадому, памыўся акуратненька, мая Два метры фанеры яшчэ з работы не прыйшла — думаю, адтуль адразу ў клуб рване, — падышоў да шафы касцюм выхадны надзець. Адчыніў дзверцы — пінжачок на вешалцы вісіць. Лап я за яго — цяжкі. Я тады за яго ў дзве рукі. Усё адно як хто яго на падлогу з рук цягне. Гляджу — рукавы знізу пазавязаныя беленькай тасьмой: і адно і другое. Лап я за рукаво — цвёрдае. Лап за другое... Э-эге! Палез я ў сярэдзіну — і ў адным, і ў другім рукаве бутэлькі... Ну і даў я тут шэфскі канцэрт адразу, не трэба было і адзявацца і цягнуцца ў той клуб. А жонка, вярнуўшыся, мне канцэрт дала. Людзі ў клубе, культурненька сабе так... А я дома "песень" тады цяпнуў... А ты, Антонавіч, баечкі...

— Толькі б таго і гора было на свеце...

— Пугач, адкінуўшыся, рагатаў на ўсю хату. — Чуеш, Уліма? Ён цябе аднымі сваімі байкамі вылячыць...

— Паслухаць збоку... — азвалася Алімпіяда, — дык наліха ёй гэта гар! І так жыццё ў вас горкае...

— Адкажу, маці. Не сакрэт. Запасы робіць. Запасы. Госці, імяніны. Як гэта ў некага ёсць, а ў яе няма? У маёй Фанеры ўсяго ў запасе, па самае "не хачу". Толькі па маёй лініі ёй стратэгічны запас зрабіць не ўдаецца. Пачую — і крышка... А жывём мы з ёй, маці... Толку ніякага. Ссівеў я, а хата пустая. І будзе пустая... А каб не была пустая, то і маё жыццё было б інакшае... Ат, маці, ты ўсё ведаеш. Больш за іх за ўсіх, — кінуў ён галавой некуды ў акно на гарод, нібыта там яго слухалі, і раптам зарагаў на ўсю хату. — Ты думаеш, Антонавіч, што маю Фанеру так лёгка ўзяць? Не-не... Голай рукой яе не возьмеш... Пасля таго, шэфскага канцэрта яна адразу змяніла тактыку. На сто восемдзесят градусаў. Месяцы тры дзяржала мяне на сухім законе, тады зноў выгнала гары. Гнацьёй — раз плюнуць. Размяшае цукру, прыстроіцца на пліце... Гэта раз нічога нікуды не хавала. Наліла ў буталь і — у сервант за шкло. І ўсё гэта дзела на замок. Сервант новы, дарагі, ламаць замок не будзеш. І шкло не разаб'еш і не вынеш: з сярэдзіны па-дурацку ўстаўлена. Тутужо ясна: на выдзержку мяне ўзяла. І вока бачыць, і нос чуе, а на языку — суха. Паскакаў я на адной назе ля серванта, а тады... Дзверцы-то замкнуты, але шчыльна палавінкі адна да другой не даходзяць. Прынёс я з сяней шланг ад бензапілы... Палез мой шланг у тую шчэлку як піцьдаць... Больш мне нічога і не трэ-

**Іван ПТАШНІКАЎ**



*М. Мятліцкі і І. Пташнікаў.*

ба было. Прыстроіўся, сапхнуў шлангам затку, і... — Корань уздыхнуў і памаўчаў. — Прыйшла тады яна дамоў, адразу ўсё гэта ўбачыла — яна ў мяне на хаду стрыжэ вачыма, — пацямнела і замоўкла. Маўчала цэлы тыдзень, не гаварыла. Хаця сама вінавата была, падражнілася. На другі тыдзень падыходзіць: "Пакажы, — кажа, — лайдак, як ты выцадзіў яе адтуль?" Прыйшлося паказаць... Ні слова. Толькі пасля ўсяго закінула яна гэта дзела назусім. Як карова зарвала. Мне ад гэтага, канечне, выйгранка малая, па магазінах трэба за гэтым "лучом" праклятым гойсаць. Ды чорт з ім, жылі і жыць будзем. Але гэта не ўсё... Былі ў яе яшчэ два стратэгічныя запасы... І тыя ляснулі... Паслухай, Антонавіч. Што ты ўсё не верыш? Падвесіла яна адзін стратэгічны запас у цэлафанавым мяшку ў варывеньцы. А мышкі ражок у тым мяшку і адчыкрыжылі... Ну тут ужо яна пашкадавала мяне раз у жыцці: "Хай бы ты лепш спажыў, чымся на зямлю выцекла..." А апошні свой стратэгічны запас дзяржала яна ад вясны аж дагэтуль. Гасцей усё далёкіх чакала. Прыехалі. На той стратэгічны запас. Але яна забылася, што ёсць я. Корань, дзядзюля, Фінагент, Лайдак, як хочаш мяне заві. І ніякі стратэгічны запас без мяне не пройдзе. Схавала яна яго — ніколі б не здагадаўся дзе... У градах, пад капустай. Гляджу раз — адзін качан падвяў. Мне і цюкнула! Завастрыў я палачку, асцярожненька тырк, тырк востранькім канцом пад корань — цюк у нешта цвёрдае. Я качан той вон, выкапаў ямку, адаткнуў буталь, асцярожна, каб пяску не насыпаць, і... Тут вы ўжо можаце самі здагадацца, як і што. Зямлю пасля на месца, качан капусты наверх. Так і палоў я грады, пакуль пад качаном не стала пуста. Замаскіраваў у гэта, хаджу хоць бы што, качан аджыў і пачаў расці. І раптам — госці. Яе сёстры са свету, з дзяцьмі, з мужыкамі. Жонка крадком з хаты, тэп-тэп у гарод... Нагнулася ў капусце, коп-коп, як курачка, і — аж прысела... Я гляджу ў акно, а ў самога і страх прапаў, ад смеху за жывот хапаюся... Цяпнуў бы я тады гора, але госці былі ў хаце... Пасля яна адышла, але чую, Антонавіч, гэтага яна мне ніколі не даруе. Ворагі да магілы...

— Вясёлы ты чалавек, казладойны чартуляп... Далёка відзіш, а яшчэ далей сваім носам чуеш... — Пугач ціхенька смяяўся, і па шчацэ ў яго цякла сляза. — Зусім закруціў нас сваімі байкамі. Складна ў цябе языком выходзіць, як з кнігі. Толькі дзе складна, там няпраўда. У жыцці ніколі складна не выходзіць, казларогая судзьбіна... — сказаў ён, устаўшы, і ўзяў з услона чорны апарат з беленькай кнопачкай: — Давай, дзеўка, паглядзім, што ў нас там цяпер. У цябе старая гіпертанія, і ты надта носа не вешай. Ад яе перш толькі і лячылі, што кроў пускалі. П'явачкі ставілі. А дзе тут у нас тыя п'явачкі? А-га! Судзьбіна казларогая... — ён зірнуў на апарат і адразу павесялеў. — Сто пяцьдзесят на дзевяноста пяць... Зусім іншы квас. Значыць, мы яшчэ паддаёмся, баімся магнэзіі, значыць, сасуды ў нас не прапашчыя, будуць качагарыць, судзьбіна казларогая... Толькі б я на тваім месцы, дзеўка, лёг у бальніцу. Пакалоцца трэба. Аддыхнуць ад сваіх цялушак. Мы стаім усягды за хворых і рэкамендуем спакой, раім кідаць работу. Памагае гэта ці не, я не магу сказаць, але, відаць, памагае. Нашы рэцэпты аснованы на практыцы. Вялікія галовы пра гэта думалі, а раз рашылі... Я табе, дзеўка, скажу на вушка: кідай сваю ферму, даўжэй пажывеш. Загадчыка знойдуць маладзейшага, во, — паказаў ён бліскучым фанэндаскопам у праёміну ў перагародцы, дзе стаяла Таня. — Яны ўсё зробяць. На іх трэба ўсё гэта перагрузіць, што самі мы няслі. Хай прывыкаюць, горбіцца тады не будуць...

— Лёгка сказаць...

— Што, лёгка сказаць? Колькі ты год на ферме?

— З трыццаць восьмага. Як скончыла шасцімесячныя курсы пры Смілавіцкім заатэхнікуме, так і тут. На ферме. "Дыплом"-то ў мяне быў на раённага заатэхніка, а асталася тут, на ферме. Пабаялася, бабай будучы, ісці ў начальства. Ды і сынам сваім першым на тых курсах хадзіла. І Мікалай быў хворы. Можна было і мне, бабе, вочы тады працёрці. Лягчэй, можа б, было пад старасць на свет глядзець. Хаця, такая вайна наперадзе чакала, хто ведае... Што пра тое гаварыць. Я ўжо, можа б, і пайшла з фермы. Хадзіла б па сваім двары, далей мне ўжо цяжка адысціся, глядзела б за сваёй Малінай і за Юрачкам... Дык Дзярызямля не пускае. Дабудзь, пакуль ферму новую закончым, просіць. Вот так дзеньадодня гражуся кінуць, і не кідаецца ніяк... Устанеш і ідзеш...

— Казларогая судзьбіна... Скажу Коласу. Ён на Дзярызямлю націсне.

— Ко-опас... Каб ён мне хоць рукі падлячыў... Каб пальцы мякчэйшыя сталі. Пісаць не магу...

— У цябе яшчэ, дзеўка, застарэлы артроз. Масажык, масажык памагае. У нас на гэта Праскурніч'я спец. Угаварваць я цябе доўга не буду. Мы не дзеці. Галоўнае ў нас — гіпертанія. А ад гэтай пакасці цяпер столькі ўсяго новага, не ведаеш, што і выпісаць. Колас, можа, і другое што падбярэ, а я, стары чартуляп, люблю старое — дэпрэсін і баначны варатнік. Пакіну табе, дзеўка, парашочкі на першы раз і рэцэпт. Дачка хай падскоча да нас, закажа ў аптэцы. Зробім. Папрынімай дзён дзесяць, знаеш, не першыня. І дачка варатнічок хай так праз дзень палепіць. Рукі маладыя, спрытныя. А калі што — адразу да нас, самі. Не завіце. Што толку? Пакалоцца трэба, аддыхнуць, сэрца падкарміць. Галоўнае яно ў цябе, дзеўка, судзьбіна казларогая. Вясковая прывычка гэта — не хацець у бальніцу. На сваім ложку, во — каб памерці... Усё адно ж ідзем пасля, як прыцісне. А тады — позна. Памагчы не можам. А мы ўсё-такі можам памагчы. Давай, хлапец, збірайся. Заседзеліся. — Пугач акуратненька складаў у партфель чорны апарат і бліскучы фанэндаскоп. — Падчысцілі талеркі, і паедзем. Так закусваць жывоцік вырасце.

— Калі ж да другога чаго не цягне, — Корань пагладзіў рукой сівыя, вожыкам, валасы і паказаў на стол. — Мне калі есці не хочацца, то ўжо нічога больш і не хочацца. Закусіш, як палагаецца, і сядзіш сабе, кругленькі такі, усім давольны. Толькі вочкамі лып-лып... І ўсё гэта ад таго, калі я рабіў фінагентам. Прывык за гэтулькі гадоў. Прыйдзеш — у яе ў каторай ні рубля, а на стол бутэлька ёсць. Ну, маці, жыла і жыць будзеш...

— Не кідаеш ты сваіх конікаў, як бацька, бывала. Я дык твайго бацьку помню. Вот баяў дык баяў... І пеў і ў танцы ішоў...

— І я малады любіў стукаць нагамі аб падлогу. Калі быў фінагентам — і партфель губляў на танцах. Прыткнеш на падаконніку, каб быў на воку, і забудзешся, што з ім прыходзіў. Але аддавалі назаўтра. Находзілі, дзе начаваў, прыносілі і аддавалі. І ні разу ніхто... Грошы былі цэлыя. Сплыло ўсё, маці. Але сядзіць яшчэ чорт у нагах... Сядзі-іць, маці... Купіў я нядаўна прыёмнік. Маленькі, у руках што носяць. Прыйшоў дамоў, пстрык — уключылася Варшава. Перадавалі полькі. Ды такія... З ўсёй Польшчы, а можа, і ўсе, якія ёсць на свеце. Як падхапіў мяне дурны вецер... Як прысыпаў я ў хаце... Думаў, маці, заб'юся. Лупіў нагамі аб падлогу... Адзін, Антонавіч, адзін, мая Два метры фанеры не здатная, як чапяла. Эх, маці, маці... Танцы нашы цяпер... А ці даўно ж гэта ўсё было. Нічога, маці, жылі і жыць будзем. І хай Антонавіч глядзіць назад, а мы з табой будзем наперад...

—Заводзь ідзі свайго казларогага, чартуляп. І давай не будзем ужо ў хаце курыць. Пацерпім. А ты, дзеўка, не забывайся на парашочкі. Па тры разы ў дзень. Раніцай бяры нашча. Я падашлю Коласа, як толькі вернецца. Хай сам паглядзіць. І галавой больш круці па баках, не бойся. Шыя трашчыць? Хай трашчыць, абы галава на ёй круцілася...

Яны не згледзелі, як шмыкнуў за парог Корань, пачулі толькі, як засакатаў на двары матацыкл. У хаце адразу запахла едкім і праціўным чадам — пацягнула з двара.

— Папраўляйся, дзеўка, судзьбіна твая казларогая. Парашочкі паклаў на ражок стала, не згарніце... — Пугач, ідучы ў сенцы, стукнуў галавой аб вушак.

На дварэ доўга трашчаў матацыкл, і бразгалі ў хаце талеркі — Таня збірала са стала.

Пасля на дварэ азваліся мужчыны; заныў ля сцяны матацыкл, рвучыся на вуліцу, і грукнулі аб сцяну адкінутыя ў сенцах дзверы.

— Паглядзі, дачка, што там... — Алімпіяда пачула, як тоненькай халоднай, што лёд, іголкай кальнула пасярод грудзей трывога.

У хату як ўсё роўна хто бег.

**"Полымя" № 1, 1984**

*Якуб КОЛАС сярод дэлегатаў і гасцей 3-га з'езда пісьменнікаў Беларусі. 1954 год.*

**Піліп ПЕСТРАК**

## НА МАГІЛЕ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

*Задумна кіпарыс шапоча*
*над табою,*
*Наш незабыўны друг, згарэўшы*
*без пары,*
*Дзе сонечны блакіт над Ялтаю*
*гарыць,*
*А мора ўсё грыміць грымотамі*
*прыбою...*

*Усё жыве, паэт, нягаснучай*
*красою,*
*Усё звініць, як бомы ў песенным*
*бары*
*У краі тым, дзе пачынаў тварыць*
*Яшчэ бяздольнаю часінаю цяжкою.*

*Змяніўся родны край, сустрэў*
*вясны світанне,*
*І кожны глыбу дзён душой сваёй*
*скране*
*Без жалю, без сірочага стагнання.*

*І не адзін паэт у гэтай старане*
*Па-над табою схіліцца ў пашане*
*І шчыра праспявае аб вясне...*

**"Полымя" № 6, 1960**

**Віктар РАКАЎ**

## ДАРОГА ДАДОМУ

*На дзевятым кіламетры*
*Ад райцэнтра па шашы*
*Збочу я ў лясныя нетры —*
*Ў Целяшы.*

*Толькі крок —*
*і я ўжо дома,*
*Хоць далёка да двара*
*З копкай леташняй саломы,*
*З рогам ржавага багра*

*Пад страхой,*
*З кассём счарнелым,*
*З неназубленым сярпом,*
*З гладышом перакапцелым*
*На штыкеціне ўверх дном...*

*Гэта ўсё знаёма, ярка*
*Прад вачыма праплыве*
*Ценямі па пнях, імшарках,*
*Па аблоках, па траве.*

*"Ты здалёку,*
*ды здалёку*
*Я пазнала — знаю, чый..." —*
*Затрасе хвастом сарока,*
*Ні схавацца, ні ўцячы,*

*Усё роўна апярэдзіць,*
*Вестку першай прынясе:*
*"Вы чакалі?*
*Едзе, едзе!.." —*
*Будуць ведаць дома ўсе.*

*І пакуль пад нізкай брамкай*
*Ў ціхі двор свой сум вядзеш,*
*І пакуль руку на клямку*
*Зноў прывычна ты кладзеш,*

*Забываеш, што так доўга*
*Ты ляцеў у гэту ціш:*
*Ўсё на месцы —*
*і дарога,*
*і сарока,*
*і гладыш...*

**"Полымя" № 9, 1982**

**Еўдакія ЛОСЬ**

*Цалую ручкі сынавы малыя...*
*Я ведаю: яны не будуць злыя!*

*Калі адкінуць прэч —*
*дык загароду,*
*Што ляжа на дарозе перашкодай.*
*Калі паднімуць —*
*вартае таго,*
*Калі абдымуць —*
*любае яго...*
*Не прывітаюць ручанькі благога,*
*Не папіхнуць няўважліва слабога*
*І, як спазнае кошт жыцця нябога,*
*Не разаб'юць нічога*
*дарагога...*

*Цалую ручкі цёплыя, малыя...*
*Ім гладзіць валасы мае сівыя...*

**"Полымя" № 3, 1964.**

*Чарга па аўтографы да Еўдакіі ЛОСЬ. 1973 год.*

ПОЛЫМЯ
-часопіс
80 год

## «ПОЛЫМЯ» № 11—12 2002 ГОДА

**Часопісу "Полымя", яго 80-гадоваму юбілею, прысвячае верш-оду Казімір Камейша.**

*Падымі,*
*як некалі,*
*спрасонку*
*І вярні ў далёкі год мяне.*
*Водсвет твой, што залаціў*
*старонкі,*
*Ясна так на твары палымнеў.*
*..................................*
*Як святлом праменіць*
*наша мова,*
*Так і ты не гаснеш праз гады.*
*Беражэш ты слова песнярова*
*І зачын шануеш малады.*

**Напэўна лепш не скажаш пра часопіс-юбіляр, часопіс, якому лёсам наканавана быць флагманам беларускай літаратуры. Чытачам, якія "абрывалі" рэдакцыйныя тэлефоны пасля выхаду ў свет 9—10 нумара, паведамляем, што заканчэнне рамана Міколы Кусянкова "Хмель каля вольхі" вы прачытаеце яшчэ да Новага, 2003 года!**

**Зноў на старонках часопіса "Чаргаві" Ганада Чарказяна ў перакладзе Алы Канапелькі. Чытаем чатырохрадкоўі паэта і хочацца сказаць не "Чаргаві", а Чарказянаўская мудрасць. Зрэшты мяркуйце самі:**

*"На волю пушчаны зямныя*
*ўсе істоты.*
*На ланцугу — адзіны чалавек.*
*Скажы, без працы — хто ты?*
*Без рабства, звыклага навек?"*

**Анатоль Казлоў зноў заявіў аб сабе новай аповесцю "Раздарожны саракоўнік". Цяжкая ноша — жыццё! Словамі можна ўсё патлумачыць — і добрае і не зусім, але ж калі застаешся сам-насам, якраз слоў і не хапае. І тады ў галоўнага героя Антона Яновіча ўтвараецца свой свет, асабістае, часцяком містычнае, бачанне падзей і ўчынкаў. І як вынік — філасофскае: "Хоць раз за жыццё, ды трэба наступіць на свой цень". Навум Гальпяровіч прапаноўвае чытачам новыя аповеды з цыкла: "Шляхі і вяртанні".**

**Два апавяданні Паўла Місько пад агульнай назвай "Першае і адзінае" чытаюцца на адным дыханні.**

**Да 120-годдзя Якуба Коласа прапанавалі свае артыкулы Васіль Жураўлёў, Аляксей Рагуля, Ганна Запартыка.**

**Прыхільнікі паэзіі пазнаёмяцца з новымі творамі Леаніда Яўменава, Мар'яна Дуксы, Валянціна Лукшы.**

**Віктар ПРАЎДЗІН,**
**намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя"**

Таіса БОНДАР

## РАГНЕДА

(з паэмы)

***

*Суджана — не разгуджана...*
*Гужам, гужам — даўгія дні.*
*Перакочваецца жамчужынай*
*сонца ў кожнага ў далані.*
*Але высь патыхае холадам,*
*і ўздымаецца пыл да хмар,*
*і, праз міг, раздрабілі молаты*
*цішыню, і свой першы ўдар.*
*Стала цёмна. Маланкі — навіссю.*
*Шлях, як конь, устаў на дыбы.*
*Застагнала зямля. Чапляліся*
*за яе, цяжкую, дубы,*
*каб адзін з адным, паміраючы,*
*усім тром абняцца галлём...*
*Стала чорна. Вухнуў за далеччу,*
*прыпазнійшыся трохі, гром.*

***

*Бом! Бом!*
*Бом! Бом!*
*Біла*
*ў Вялікае Біла*
*трывога —*
*даль*
*за клубом*
*пылу халоднага*
*ўкрыла дарогу.*
*Вораг ішоў.*
*Гора*
*пагоркамі горбіла*
*вёрсты.*
*Крык старажоў*
*доўга стрыножвала*
*кожная*
*ростань.*
*Бом! Бом!*
*Бом! Бом!*
*Біла*
*ў Вялікае Біла*
*надзея.*
*Тут, за гарбом*
*бору, не злыбеда*
*раніцу дзее.*
*Горад гудзе.*
*Рана*
*трывога сабрала*
*ля вечных*
*полацкіх сцен*
*вояў*
*і люд яго вольны*
*на веча.*
*Бом! Бом!*
*Бом! Бом!*
*Біла*
*ў Вялікае Біла*
*змаганне.*
*Нельга рабом*
*жыць на зямлі сваёй*
*побач з багамі!*
*Мала мячоў? —*
*ёсць жа*
*на кожным падворку*
*сякера.*
*Як крумкачоў,*
*ворагаў? —*
*вораг іх гора*
*не мераў.*
*Веча...*
*Бом, бом, бом!..*
*Паб'ём*
*прышлых чужынцаў*
*альбо памром —*
*сеча! Сеча!*

***

*Не вецер хмару ўсё ніжай сцеле,*
*а хмара стрэлы ўсё бліжай сее,*
*а стрэлы раці на раці гоняць,*
*мячы ў цяжкія шаломы звоняць.*
*З шаломаў збітых п'е не нап'еццa*
*другое — трэцяе ўжо! — дасвецце.*
*П'е не нап'еццa, паталі просіць:*
*смерць не шаломы — галовы*
*косіць,*
*і топчуць коні іх капытамі...*
*Зямлю да горада ўкрыць*
*не шчытамі —*
*касцямі ў сечы палеглых вояў.*
*Не званы адвага й воля:*
*мячы ў чужыя шаломы звоняць,*
*кроў чуюць, быццам дзічэюць*
*коні —*
*храпуць, ірвуцца з-пад ліўня*
*стрэлаў*
*без седака*
*ці з абвіслым целам...*
*Ярчэй, трывожней палае неба.*
*Што ж, абы славе не быць*
*ганебнай!*
*У Рагвалода — меч харалужны,*
*сыны, два воі...*
*Іх смерці мужнай*
*не бачыў ён, чужакоў адкідваў,*
*ірваўся ўперад, насустрач*
*дзідам —*
*за вольны Полацк свой, за волю...*
*Не сонца ўпала дубам на голле —*
*апошні, ссечаны, на сонца падаў,*
*і тухла, тухла яно. І праўда,*
*слабей чуваць, як зямля ўздыхае,*
*смялей груган над зямлёй кружляе.*
*Да сценаў полацкіх крыві*
*хапіла —*
*і не было каму ўжо біць у біла.*

***

*О, чорны пасеў...*
*Спіць гэтулькі люду!*
*Калі яшчэ ўсе*
*аплаканы будуць?*
*Ці будуць? І кім?*
*Пакуль яшчэ схованм —*
*сасняк ля ракі,*
*і побач — ахова...*
*Пакуль яшчэ ў іх*
*ёсць нітачка шляху...*
*А мала жывых,*
*дык мала і страху.*
*Ці ж для крывічоў*
*чужынцы не ў памяць?*
*Князёўну з мячом*
*шчыльней абступаюць.*
*Скрываўлены шлях*
*пятляе з палону.*
*О, страшны пасаг!*
*Шаломы, шаломы...*
*Палон?! Вось ён, час*
*знявагі, няволі!*
*Загналі. Якраз.*
*Не выкаўтнуць болю.*
*Яна ўжо адна!*
*Яе Валадзімір*
*Касой да сядла*
*прывяжа, абдыме*
*за шыю каня*
*пад клік пераможны...*
*Рашуча яна*
*намацвае ножны.*
*І бліскае нож,*
*і падае цяжка*
*каса яе ў дождж*
*пылінак бязважкіх —*
*ва ўсіх на вачах,*
*пад шэпт захаплення! —*
*крануўся пляча*
*бярэмак праменняў,*
*рассыпаўся ўкруг*
*і высвеціў вецер.*
*І роспачы рук*
*ніхто не прыкмеціў.*
*Нявольніца?*
*Што ж*
*маўчыць наўгародзец?*
*У грудзі б той нож! —*
*апошняя з роду...*

***

*Занадта наблізіла далі?*
*Магчыма. Ды толькі яны*
*світалі, упарта світалі*
*так блізка — я чула званы,*
*і пацеры з вуснаў Рагнеды,*
*і крокі ў яе за спіной...*
*І сум мой не ведаў, не ведаў,*
*што час паміж намі — сцяной,*
*што ён і магілы не знойдзе*
*пасля, як адпусціць мяне*
*і, ціха ўздыхаючы, пойдзе*
*па той абымшэлай сцяне.*
*Дзе хмары дажджамі заслалі*
*парослы стагоддзямі груд,*
*сабор Ізяслава — Заслаўе! —*
*напоўніць загадкавы гуд.*
*Нібыта пустая званіца*
*раззвоніць далёкія дні,*
*хоць іх*
*на музейных паліцах*
*не ўгледзець — чарэпкі адны.*
*А я... Я нядаўна адкрыла:*
*у сэрцах (хай толькі ў адным!)*
*у кветкі прыбрана магіла —*
*яе не зруйнуюць гады.*
*А значыць, і памяць. І памяць...*

*Занадта балючы мой сказ?*
*Магчыма. Усе, хто — за намі,*
*палеглі.*
*Каб збыцца — у нас.*

"Полымя" 1983 г.



*Тры паэткі, тры сяброўкі (Раіса БАРАВІКОВА, Яўгенія ЯНІШЧЫЦ, Таіса БОНДАР) на адным з пісьменніцкіх з'ездаў. 1981 г.*

Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

## ЯЛТА — 1917

*Чысты пагляд васілька.*
*Ціха журыцца радзіма.*
*Роднае поле радка*
*Ці не з табою, Максіме?*

*Чую, як мора шуміць.*
*Хваля*
*тугі не адніме.*
*Хочацца верыць і жыць*
*Ці не табе, Максіме?*

*Белай самоты сцяна,*
*Дай яму лёту і сілы!*
*Ці не з журбы Лесуна*
*Ў Лебедзя гордыя крылы?..*

*Скруха душу апячэ,*
*А ці уздыме нягода?*
*Гэта спяшаецца Чэсць*
*У абарону народа.*

*Смерць, ты цікуеш дарма.*
*Белых галінак кіпенне.*
*Смерці ў Паэта няма —*
*Ёсць Нараджэнне!*

*Песняй аблвостраны слых —*
*Чуеш, Максім? — не ўмірае!*
*Сёння з Табой. І для ўсіх*
*Зорка Венера світае.*

"Полымя" № 12, 1981

Раіса БАРАВІКОВА

***

*...А раніца прарвала ліўнем лета,*
*і на паляне ў рост пайшла трава.*
*За хмарай шызай неба сінява...*
*Я і такім пачаткам дня сагрэта.*

*Затканы ліўнем сцежкі і дамы,*
*перасліваць прыроду я не ў сіле,*
*хоць і ў слабога вырастае крылле*
*ад думак, што зліліся лёгка*
*ў "Мы"...*

*Здалося, што па Вашаму загаду*
*зляцеліся да вокнаў галубы*
*і, нібы кліч прызыўнае трубы,*
*азваўся спеўна гром з-за далягляду.*

*І ўпершыню баяцца вясны вуснаў.*
*"Мы..." — выдыхае трапятліва*
*рот...*
*Жыццё — тартак, няспынны*
*калаўрот,*
*зноў толькі думкай цешуся*
*спакуснай.*

*Шырэе неба ў вокнах ад святла,*
*сплывае хмара дымнай павалокай...*
*Прачнуўся муж, пытае:*
*"Дзе была?",*
*адказваю: "Вярнулася з аблокаў".*

## ДЗВЕ ГАДЗІНЫ НАГАВОДНЯЙ НОЧЫ

*Не д'яблік з чараўнічай табакеркі,*
*а вечар шчодры ўсім раздаў дары...*
*Дзяўчынкам — лялькі,*
*хлопчыкам — цукеркі,*
*а мне — твая пяшчота да зары.*

*Сукенак жар, усмешкі, як пагоня...*
*Сярод знаёмых твараў ты адзін,*
*хто расказаў маёй душы сягоння*
*ўсю радасць святу дадзеных гадзін.*

*Магу смяяцца, лёгенька кружыцца*
*пад позіркам, што ўзнёс мяне*
*да зор...*
*Ці поўні бляск, ці цацка*
*заіскрыцца,*
*у позірку — адчайнасць і дакор...*

*"Люблю цябе..." — выводжу*
*на сурвэтках,*
*люблю, люблю... Хацелася б —*
*заўжды.*
*І твар хаваю ў папяровых кветках,*
*і чую пах пяшчотнай рэзеды.*

"Полымя" № 3, 1986

# НЕ ТОЛЬКІ РАДКОМ БІЯГРАФІІ...

Незадоўга да таго, як сабраўся сесці за пісьмовы стол, запыніў мяне даішнік. Пільна вывучаючы мае бывалыя "правы" кіроўцы, запытаўся:

— А працуеце дзе?

— У "Полымі"! — механічна адказаў я.

— Едзьце! — махнуў ён рукой.

Паехаў я і яшчэ доўга здзіўляўся: "Чаму ж яго больш анічога не зацікавіла ў тым адказе?" Для мяне вунь адразу колькі згадак!

Згадаў той, не такі ўжо і блізкі, 1962-і, шчаслівы, студэнцкі. І сябе ў ім, нясмелага, нават дзікаватага пушчанца, які ніяк не можа звыкнуцца з крыклівымі звычкамі спакусніцы-сталіцы. Як і большасць нашых філфакаўцаў "захапляюся" вершамі. Пішу іх нават на лекцыях. А па рэдакцыях хадзіць, ну, зусім не маю смеласці. Але неяк сябра Рыгор Семашкевіч, з якім жылі ў адным інтэрнацкім пакоі па вуліцы Свярдлова, падгаворвае наведацца ў "Полымя".

— Ты што? — заўпарціўся я. — Бяры ніжэй. Можа — "Бярозка", "Маладосць"?

— Пойдзем. Я там усю рэдакцыю ведаю. У Маладзечне ў нас была сустрэча... — пераканаў сябра.

І пайшлі. Не ведаю, як Рыгор, а я ішоў і ад страху не чуў пад сабою ног. Не памятаю, як адчынялі дзверы, як пераступалі парог. А ўсё астатняе памятаю добра.

Гэта быў той самы, вялікі пакой рэдакцыі, у якім сёння месціцца наша бухгалтэрыя. Вокнамі сваімі ён глядзіць на гаманкую вуліцу Захарава. Ветліва пасміхаючыся, нават прыўзняўшыся з-за стала, як добрых знаёмых, павітаў нас Анатоль Вялюгін. Магутны, прыгожы і малады. Рыгора Семашкевіча ён пазнаў адразу:

— Во і маладзечанскі хлопча.

Ну і памяць жа ў яго, падумалася мне, некалі аднойчы пабачыў нейкага хлапчука, а памятае. Заўсміхаўся і маўклівы Максім Танк, тады галоўны рэдактар "Полымя". Сядзеў ён справа, за вакном, ля самай сцяны, дзе потым сядзелі ўсе галоўныя. Пачаліся роспыты пра вучобу, бацькоў, ну і, вядома ж, пра вершы.

— Ну, калі завіталі, то напэўна ж з вершамі, — ужо зусім па-свойску сказаў Максім Танк.

Нясмела выцягвалі мы з-за пазухі, складзеныя папалам, лісткі з вучнёўскі сшыткаў з нашымі вучнёўскімі вершамі. Чытаў іх Анатоль Сцяпанавіч тут жа пры нас, раз-пораз пацягваючы цыгарку, хітравата жмурачы правае вока. А я дрыжэў, я чакаў прысуду.

— Добра, хлопцы, пішэце. А гэта, — паказаў ён на некалькі лісткоў, — надрукуем.

Заставалася чакаць. Ды ў тое, што вершы надрукуюць, мне зусім не верылася. Чаго захацеў?! Ды хто я ўрэшце такі? Студэнт, першакурснік. Вунь, людзі з кнігамі, члены пісьменніцкага саюза, і то не могуць патрапіць на старонкі "Полымя".

Прайшло не так і многа часу, і ў тым жа, 1962 годзе, некалькі маіх вершаў часопіс надрукаваў. Радасці маёй не было межаў. Нясціпла такое казаць, але ў тых "палымянскіх" васьмідзесяці хоць неяк мільганулася і сорак маіх.

І сёння не магу зразумець, за што так упадабаў нас строгі і патрабавальны паэтычны настаўнік. Больш таго, мы, здаецца, назаўсёды пасябравалі з ім. Падкупляла ў настаўніку тое, што ён, старэйшы, з маладымі размаўляў і паводзіў сябе як роўны з роўнымі. Хоць не памыляюся і аўтар эпіграмы, калі пісаў: "Заўсёды ён мужны і стойкі, не кожнаму цісне руку..." Сяброў ды і прыліпал у яго было многа. Адных ён рэзка адпрэчваў, а іншых яшчэ больш прывязваў да сябе сваёй, наросхрыст, — адкрытасцю.

Неўзабаве Анатоль Сцяпанавіч гасцяваў у нас у інтэрнаце, нават занчаваў. А назаўтра (махнуў рукой я на заняткі) мы ледзь не цэлы



А. ВЯЛЮГІН у Караліпчавічах. 1975 г.

дзень правандравалі па рэдакцыях, забрылі на кінастудыю. У Доме друку "адмірал паэзіі" (ганаровая мянушка паэта") атрымаў ганарар і тут жа па пошце адправіў грашовы перавод маці, якая жыла тады на Віцебшчыне. Гэта, апошняе, мне асабліва спадабалася і заўсёды згадвалася, калі я атрымліваў хоць нейкія капейкі за свае творы.

Доўгі час я працаваў на Беларускім радыё. Што й і казаць, засядзеўся там. Гэта заўважыў і Анатоль Сцяпанавіч.

— Давай да нас, у "Полымя", — сказаў ён неяк. — З Кастусём я перагаварыў. Восенню 1979 года мяне залічылі ў штат рэдакцыі, аддзел крытыкі і літаратуразнаўства. Ганарова, але і адказна. Тут мне зноў прыгадаўся даішнік, але ўжо таго часу. Калі я аднойчы дужа груба парушыў правілы руху, ён, як і сённяшні, дапытваўся:

— А дзе працуеце?

Адказ "У Полымі" быў для яго недастатковым.

— А кім? — дапытваўся ён.

— Загадчыкам аддзела крытыкі.

— Як жа так? — ушчуваў ён мяне. — Іншых крытыкуеце, а самі парушаеце...

Ведаў бы ён, каго я крытыкую.

На мой рабочы стол Анатоль Сцяпанавіч адразу ж паклаў лісток з любімым вершам Яўгена Вінакурава. Гэтыя радкі настаўнік мой даволі часта цытаваў у застоллях. Я добра запомніў радкі:

*С двух до пяти*
*Я сидел за столом.*
*И делал себе врагов.*
*Это было нечто вроде*
*Кустарной мастерской:*
*Враги возрастали*
*В геометрической прогрессии*
*Оклад, из-за которого*
*Я пошел заведовать,*
*Уходил на угощение*
*Обиженных мною друзей.*

Скажу шчыра, працаваць у часопісе было не так і проста. Галоўны рэдактар Кастусь Кірэенка сустракаў мяне кожны дзень толькі адным пытаннем:

— Дзе сучасны літаратурны працэс?

Ну і даўся ж той "працэс" мне ў знакі. Усе мае цікавыя гістарычныя матэрыялы, якія ляжалі на рабочым стале, не ішлі ў залік. Пра "літаратурны працэс", калі і пісалі, дык два-тры аўтары. І я ўжо загадзя ведаў, што яны напішуць.

І ўсё ж праца ў старэйшым часопісе была для мяне школай патрабавальнасці, рэдактарскай узважанасці, тактоўнасці і прынцыповасці. Бачыў я, як даводзіў "да кандыцыі" вершаваную "прадукцыю" Анатоль Вялюгін, перапісваючы ледзь не кожны радок ужо масцітых аўтараў, як шчыраваў аддзел прозы пад кіраўніцтвам Івана Пташнікава, як шліфавала фразу таленавіты стыліст Лідзія Карамазава. Патрабавальнасць, як зразумеў я, павінна вынікаць з самой заклапочанасці пра стан літаратуры, пра аўтарытэт выдання і ні ў якім разе — з нейкіх "павеваў", неўгуморства.

Хочаш таго ці не хочаш, а ў біяграфіі тваёй мусіць быць запісана: "Працаваў у рэдакцыі часопіса "Полымя". Суха, мала. Толькі я адзін ведаю, што тое для мяне значыць.

Рэдакцыя, як і чытач, жыве чаканнем. Чакаеш: адчыняцца дзверы — і на стол ляжа твор, які стане з'яваю новага стагоддзя. Такое, на жаль, здараецца рэдка. За восемдзесят палымянскіх гадоў такое здаралася. Будзем працаваць і спадзявацца на тое. Дык не спяшайся, дарагі Часе, пакуль цябе даганяюць геніі.

Казімір КАМЕЙША

**ПОЛЫМЯ**

*-часопіс*

*80 год*

## «ПОЛЫМЯ» — 2003

**З першага нумара мы пачынаем друкаваць раман Уладзіміра Гніламёдава. Вось што сам аўтар распавёў пра новы твор:**

**“Я не прымхлівы, і ўжо не раз расказваў чытачам пра задумку напісаць хроніку беларускага лёсу ў XX стагоддзі. У яго аснове — аповед пра свой род і народ, пра Берасцейшчыну, дзе я нарадзіўся, пра Беларусь і ўвесь свет. Адзін з раманаў гэтай хронікі я ў свой час прапанаваў для часопіса “Полымя”, і ў наступным годзе першая частка мае быць надрукаванай. Раман скончаны цалкам, назва — “Бежанцы”.**

**Гаворка ідзе пра бежанцаў 1915 года, якія пры набліжэнні руска-нямецкага фронту (калі немцы ўзялі Варшаву), у прымусовым парадку, прыхапіўшы такі-сякі хатні скарб, падаліся большай часткай на Усход, у Расію.**

**Гэта, уласна кажучы, тэма купалаўскіх “Паязджанаў”, якія, гнаныя лёсам, апынуліся ў вялікай няпэўнасці і ў рэжыме неакрэсленага хранатопу, шукаюць па свеце ратунку і прыстання.**

**Купала — касміст, нам такога не дадзена, хаця мы і пазіраем у яго бок, карыстаемся яго ўрокамі... Што тычыцць маіх паязджанаў-бежанцаў, дык яны ў пошуках часовага прытулку трапілі ў Борскі павет Самарскай губерні — гэта, значыць, ажно за Волгу, у чапаеўскія мясціны, дзе потым і разыграюцца крутыя падзеі рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, шматлікіх паўстанняў і, нарэшце, вялікая засуха і голад 1920—1921 гадоў.**

**Усяго гэтага напоўніцу паспыталі і мае героі. Прабылі яны там не многа не мала — амаль сем гадоў і вярнуліся толькі летам 1922 года. Перабылі і вайну, і рэвалюцыі, і белачэхаў, і Калчака, і Сапажкова (быў там такі сялянскі правадыр), і яшчэ і яшчэ.**

**Чалавеку наканавана жыць і ён жыве — ці то вайна, ці рэвалюцыя, ці што іншае.**

**Раман “Бежанцы” складаецца з пяці частак”.**

**Алесь Савіцкі прапануе чытачам раман “Пісьмо ў Рай”.**

**У першай палове 2003 года “Полымя” працягвае друкаваць “Начныя ўспаміны” І. Шамякіна, будзе надрукаваны раман Л. Левановіча “Бесядзь цячэ ў акіян”. Пабачаць свет аповеды К. Камейшы “Паміж кубкам і вуснамі”; аповесці: Ф. Сіўко “Угліс”, А. Кудласевіча “Пераход”, В. Гардзея “Патоп на вясковых могілках”. На старонках часопіса вы пазнаёміцеся з апавяданнямі А. Ждана, С. Явар, С. Сцяпана, Ю. Нератка, В. Кадзетавай, А. Кірвеля, Я. Конева. Шырока прадстаўлена паэзія. З новымі вершамі выступяць: В. Шніп, М. Башлакоў, С. Station Варонік, С. Шах, З. Дудзюк, А. Салтук, В. Ярац, В. Кустава, М. Шабовіч, Н. Гальпяровіч і іншыя.**

*Падпісная цана*

**Індывідуальная (індэкс — 74985)**
**на 1 месяц — 2500 рублёў,**
**на 3 месяцы — 7500 рублёў,**
**Ведамасная (індэкс — 00141)**
**на 1 месяц — 3500 рублёў,**
**на 3 месяцы — 10500 рублёў.**

**Віктар ПРАЎДЗІН,**
**намеснік галоўнага рэдактара часопіса “Полымя”**

**ГІСТОРЫЯ “ПОЛЫМЯ” — ГЭТА ГІСТОРЫЯ НАШАЙ ЛІТАРАТУРЫ**

***Раман Уладзіміра Гніламёдава “Бежанцы” складаецца з пяці частак (“Усход”, “На вайне і ў тыле”, “1918”, “Новыя выпрабаванні”, “Да дому”).***

***“ЛіМ” прапануе ўрыўкі з I часткі рамана “Усход”, які пачне друкавацца ў часопісе “Полымя” № 1 за 2003 год.***

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# УСХОД

За адступаючай рускай арміяй сунуліся немцы і падступалі ўжо да Баранавіч. Папераздзе ўсіх рухаліся бежанцы.

— Язджайце ў Бранск! — загадалі «старшому», і той папёр далей сваіх «падначаленых».

Ехалі, міналі палі, пералескі, часам пустыя паселішчы. У вялікіх гнёздах, што былі на прыдарожных дрэвах, стаялі, пазіраючы на бежанцаў, буслы.

Кірыла ўжо даўно не здымаў з сябе рудога паношанага кажушка і рэдка злазіў з воза. У твар біў марозны вецер, адчувалася набліжэнне зімы. У пералеску абознікі спыніліся на прывал.

— Ажно косці за ўсю дарогу растрэсла! — паскардзіўся Кірыла і памалу ссунуўся з воза.

— Замарыўся дзядуля наш, — паспачувала Марыля.

Кірыла пра нешта думаў, жуючы пустым ротам. Можа, прадчуваў, што дажывае апошнія дні. Вецер варушыў яго барадой і рэдкім сівым валоссем.

— Хутка Бранск, там у поезд сядзем, — сказаў унук. Ён ведаў, што стары надта хацеў праехацца ў поездзе. Ніколі не ездзіў.

— Я ўжо ў той поезд, пра які ты гаворыш, унучак, не траплю. Мяне свой поезд чакае...

Пад'ехалі яшчэ нейкія падводы. Такія ж самыя, відаць, бежанцы. Пачаставалі прускаўцаў салам, дастаўшы яго з кошыка, падвязанага пад возам.

Прыстаўлены да прускаўцаў «старшой», які аказаўся неблагім чалавекам, падышоў і спытаў Кірылу:

— Колькі вам гадоў?

— А я не ведаю, — пацісную плячыма стары і дадаў: — А нашто ведаць?

«Старшой» не то прысвіснуў, не то ўздыхнуў.

Закіпела вада. Прускаўцы чэрпалі яе з чыгуна кубкамі і, хукаючы на кіпень, запівалі ім нішчымную яду.

— Калі есці хочацца, то смерць яшчэ далёка, — сказаў Кірыла.

— А Пракоп знік, ды і Шведаў няма! — хмыкнуў Трахім, не вымаючы з кішэняў рук. Мусіць, грэў іх там.

— А Відэрка з Каленікам у Ліпніках засталіся! — у тон яму заўважыў Галёнка. Вострыя складкі ля яго носа яшчэ больш паглыбіліся.

— Хітрыя! Паўцякалі! Не тое, што мой дурны Багдан, — завіскацела Ламакава Апраска, але яе ніхто не падтрымаў. Усе маўчалі, і яна змоўкла.

Апошнім часам Кірыла стаў цэнтрам прускаўскага гурту. Стары прадчуваў, што набліжаецца канец жыцця, надта не хацелася паміраць на чужыне, скласці косці далёка ад бацькаўшчыны, ад магіл сваіх родных і блізкіх. І яшчэ. Жыў ён заўсёды з думкай каб нікога не чапаць, нікому не станавіцца ўпоперак дарогі, не прычыняць клопату, а цяпер вось давядзецца... Што ж, такі, пэўна, лёс. Але жартаваў да апошняга часу. Днём, пачуўшы, як сварыцца Апраска з Пятром, засмяяўся:

— Калі жонка з мужыком сварыцца, дык у гаршчку трасца варыцца.

Ноччу, расплюшчыўшы вочы, папрасіў:

— Вады прынясі, Марыля!

Нявестка прынесла кубак вады. Кірыла абхапіў яго абедзвюма рукамі і пачаў прагна піць, разліваючы ваду на бараду і грудзі.

Унук паглядзеў на дзеда:

— Баліць?

— Н-не... Як табе сказаць...

Кірыла, мусіць, хацеў знайсці патрэбнае слова, але не знайшоў і змоўк. Дыханне яго рабілася ўсё больш сухім і адрывістым.

З таго боку, куды кіраваўся іх шлях, падзьмуў моцны вецер. З-за хмары выблiснула сонца, зайграла на Кірылавым кажушку.

— З неба буду на вас глядзець, — паабяцаў ён.

Усе пасталі вакол воза, на якім ляжаў Кірыла, углядаліся ў яго аблічча. Твар старога ссохся, нос завастрыўся, задраўся ўгару, яшчэ больш пасівелі барада і вусы. Зрэшты, дзядуля, колькі яго помнілі, заўсёды быў сівы.

— А цікава — што ж там усё такі на небе? — сказаў ён як бы самому сабе.

Адыходзіў на той свет пры памяці, у поўнай свядомасці, хоць кожны ўдых даваўся з намаганнем:

— Глядзіце, дзеткі, каб назад вярнуліся, чакае яно, чакае...

Потым спыніў погляд на ўнуку:

— Вернешся, дык помніш, дзе мы з табой закапалі плуг і барану?

— А як жа! Помню!

Сямейнікі бачылі, што дзядуля ўжо як бы і не змагаецца са смерцю, адчуваючы, што яму лепш памерці, чым мучыцца і замінаць ім і іншым людзям на іх гэтай пакутлівай дарозе. Ноччу ён яшчэ знайшоў у сабе сілы ўстаць, злезці з воза, пастаяць, паўзірацца ў зорнае неба над галавой, якое ўжо адбірала ў зямлі яе апошняе цяпло. Памёр ён пад раніцу. Вочы закаціліся пад павекі, дыханне аслабла, хрыпы спыніліся. На змоглы твар лягла пячатка нейкага самага апошняга прызнання, якое ён ужо не змог перадаць людзям, хоць і вельмі, як паказалася ўнуку, хацеў. На барадзе застыла не то буйная расінка, не то скупая сляза. Тоня з Фядоркай, плачучы, гладзілі сівую дзядуліну галаву.

«Кірыла — праўдзівы чалавек», — унук успомніў сказаныя некалі Кузёмкам словы.

Марылін твар быў таксама мокры ад слёз.

— Наканавана ўжо так, — уздыхнула яна.

Яшчэ мацней заплакалі дзяўчаты і Лявон разам з імі, не баючыся слёз і па-дзіцячы выціраючы іх кулаком. Чамусьці ўспомніў, як ён тапіўся ў Вялікіх Азёрах, у Амерыцы. Дзівак, ён думаў, што так невыносна цяжка, як было яму тады, больш ужо ніколі не будзе. Але не. Цяжкасцей тых, як відаць, хопіць на ўсё жыццё. Лёс на іх не скупы.

Сышліся, хто быў, моўчкі спачуваючы беспатольнай роспачы сямейнікаў. У суседняй вёсцы выпрасілі дошак, збілі такую-сякую труну. На вясковым пагосце выкапалі магілу і пахавалі. На магілу Кужалі высыпалі з мяшэчка жменьку прускаўскай зямлі, якую Кірыла, быццам ведаў, што памрэ на чужыне, узяў з сабою.

І застаўся прускавец на чужых могілках, пад убогім крыжам, у гэтым незнаёмым далёкім краі.

...Яны паехалі далей. У Бранску нарэшце селі на поезд. Конь Цыганчык падбіўся канчаткова і больш ісці не хацеў.

Вайсковая камісія заплаціла за яго і за воз. Кужалі і іншыя прускаўцы атрымалі білеты і, дарэшты змардаваныя, прывалакліся на перон.

Гамон гаварыў, як звычайна ў нос, гугнявіў:

— Вундзека апунуліся. Што ж гэта з намі будзе?

Вакзал жыў сваім жыццём. Па пероне бегалі насільшчыкі, слугуючы пасажырам; паважна сюды-туды прайшоўся жандар з аксельбантамі. Пачыналася пасадка.

Вагоны зялёнага колеру — пасажырскія, трэцяга класа. Народу набілася поўна. Усюды прыткнуты рэчы: мяшкі, скрынкі, чамаданы, кошыкі, вузлы. Камендант поезда — дзябёлы чыгуначнік у пацёртым шынялі — ледзьве праціснуўся ў вагон.

— Гараджане будуць жыць па гарадах, а вяскоўцаў мы накіроўваем пераважна ў сельскія мясцовасці, — абвясціў ён.

Насупраць Лявона сядзеў чалавек з сярдзітым тварам.

— У Маскву не пусцяць. Масква забіта бежанцамі і салдатамі, — сказаў ён тонкім і прарэзлівым, як у жанчыны, голасам.

— Маскву аб'едзем з поўдня, — дадаў яшчэ нейкі знаўца чыгуначных маршрутаў.

— А ўчарась — слыхалі? — шпіёна пымалі, — зноў загаварыў чалавек з сярдзітым тварам. — У манаха пераапрануўся!

— Ой! Няўжо? — не паверыла Гамонава Матрона.

— Вот табе і ой!

— Нашто намтыя сербы былі, што палезлі за іх у вайну! — уздыхнуў хтосьці з пасажыраў.

— У цябе не спыталі! — чмыхнуў на яго чалавек з сярдзітым тварам. — Панімаць надо! Брацця!

Азвалася Тупчыкава Гапа:

— Я свайму казала: «Давай у лес звернем!». Не захацеў — дурань!

— Ну, нашто ў лес? Рускія людзі добрыя! — супакоіў чалавек, што сядзеў насупраць Лявона.

— Лепш, чыму Расіі, нідзе не знойдзеце, — пацвердзіў знаўца чыгуначных маршрутаў, быццам ён і сапраўды ўсюды пабываў і ўсё ведае.

Неўзабаве поезд рушыў. Наперадзе была Калуга.

Марыля прыгледзелася да Тоніных чаравікаў:

— Доню, а ў цябе на чаравіках шнуркі развязаліся.

Дачка нагнулася і папраўіла шнуркі.

— Мамо, а можа, усё гэта сон? — сказала яна і ніякавата пацiснула плячыма.

— Што — сон?

— Што з намі адбываецца.

Марыля глыбока ўздыхнула:

— Каб жа, як ты кажаш, сон, а то ж не...

— Далёка нешта вязуць нас. Няўжо гэта немец ззаду наступае? — не то спытаў, не то проста ўголас падумаў Аляксей Галёнка.



— Не, — не пагадзіўся з ім хтосьці з пасажыраў, — вязуць, відаць, туды, дзе прасторней, дзе людзі жывуць багацей.

Прускаўцы наставілі вушы, услухоўваючыся ў размову.

— Ды ззаду, напэўна, іншыя, такія ж гаротнікі, падпіраюць! — сказала Марыля.

У поездзе бежанцы апынуліся ўпершыню, і, здавалася ім, бег ён так хутка, што немагчыма было агледзецца і зразумець, дзе яны знаходзяцца. Насустрач ляцелі тэлеграфныя слупы, лясы, хмары, станцыі, вакзалы. Быццам нейкая касмічная кругаверць. Рэзка крычалі гудкамі сустрэчныя паязды. Ноч змяняла дзень, а дзень ноч. Праваднікі тапілі, і ў вагоне было цёпла, як у хаце. Прускаўцы не заўважылі, як паснулі, прыткнуўшыся да клункаў, а калі прачнуліся, дык аказалася, што Калугу даўно ўжо мінулі. За акном бегла, трывожна кружылася чужая зямля, нібыта пытаючы бежанцаў: «Куды вы? Куды?»

На нейкай станцыі цягнік спыніўся. Прускаўскія мужчыны выйшлі з вагона асвяжыцца. На шыльдзе станцыйнага будынка красаваўся двухгаловы арол, а на сцяне відаць быў напалавіну сцёрты надпіс: «Не пейте сырой воды». Якая станцыя — невядома. Уздоўж чыгуначнага палатна рабочыя ставілі на зіму супрацьснежныя шчыты. З прускаўцамі параўнялася простага выгляду, але па-святочнаму апранутая жанчына з тварам, абсыпаным рабаціннем.

— Якая ўжо гэта губерня, цітку? — запытаў у яе Трахім.

— Калужская, мілай, — адказала жанчына.

— А станцыя якая? — набраўся смеласці Пятро Ламака.

— Цапляева.

— Дык якое ж сёння чысло? — разам з усімі пасмялеў і Гамон.

— Сёння свята вялікае — Казанскай Божай Маці, — патлумачыла жанчына і пагледзела на прускаўцаў, як на дзівакоў.

Лявон з Галёнкам і Тупчыкам забеглі ў станцыйны буфет, купілі каўбасы і хлеба. Чутно было, як у суседнім памяшканні нехта гаварыў па тэлефоне: «Ало! Ало!» Тут, на станцыі, можна было раздабыць гарачай вады, і яны кінуліся ў вагон па посуд. Да сваіх вярталіся не з пустымі рукамі: да каўбасы і хлеба была яшчэ і гарачая вада.

Поезд лязнуў буферамі і ўжо амаль адыходзіў. У тамбуры Лявон убачыў Ганну, якая ўсхвалявана прыспешвала землякоў:

— Людкове! Лявонка! Хутчэй! Ой, Божа мой, поезд адыходзіць! — сама ж выйшла на перон, чакаючы, пакуль сядуць марудлівыя вяскоўцы.

Пасажыры звярнулі ўвагу на кволую дзяўчынку, якая адбілася ад сям'і і шукала бацькоў і сястрычку. Яе правялі па вагоне.

— Дзе іх знойдзеш! — паспачувала Марыля. — Можа, яны не ў гэтым нават цягніку.

Тым часам поезд ужо рушыў, застукалі аб рэйкі колы.

— Ганны няма! — зірнуўшы вакол сябе, устрывожылася Апраска.

Усе заўважылі, як Трахім рэзка кінуўся ў канец вагона, у тамбур, дзе, мяркуючы па ўсім, павінна была знаходзіцца жонка. Цягнік стаў набіраць ход.

Лявону здалося, што знадворку данёсся чыйсьці ціхі, пакутлівы ўскрык. Ён прыслухаўся.

— Зарэзала! Зарэзала! — пачулася з надворнага боку.

— Жанчыну! Жанчыну!

Усе ўстрывожыліся, і людзі не маглі нават уцяміць, што ж там здарылася.

— Хто ж гэта? — угнуў галаву ў плечы Гамон.

Сярод прускаўцаў на момант запанавала маўчанне — усе як панямелі.

— Ганна, Ганна-а! — першай закрычала Марыля, як бы пра нешта здагадаўшыся. За ёй залямантавалі астатнія.

Поезд спынілі. Прускаўцы кінуліся да выйсця.

— Папала пад калясо, — паціскаў плячыма і нібыта ў чымсьці апраўдваўся Гамон.

Так, гэта была Ганна. Гэта яна трапіла пад колы цягніка. Усе патрупянелі — настолькі нечаканай і недарэчнай была смерць. Калі яе даставалі з-пад цягніка, цела было раскрамсана і знявечана коламі, і толькі твар заставаўся чысты, амальне кранугы. Толькі, як заўважыў Лявон, крыху надарвана ніжняя губа, як бы ад апошняга натужлівага крыку аб паратунку. Цяжка і надрыўна галасілі жанчыны.

Ад нечаканасці Лявону перахапіла дых, і ён ледзьве не самлеў.

Збоку ў паравоза вырвалася цэлае воблака белай вільготнай пары, ахутаўшы ўсіх, хто стаяў побач. Нейкі відавочца расказваў, што яна кінулася даганяць свой вагон і ўжо ўскочыла на падножку, але яе збіў з ног чалавек, што выбягаў гэтым часам з тамбура. Жанчына не ўтрымалася і з крыкам паляцела ўніз, пад колы наступнага вагона.

— Выпадковасць гэта, — сказаў Галёнка.

— Мусіць, што так, — пагаджаліся многія.

— Ой, не давядзі Божа... — плакалі жанчыны, ражкамі хустак выціраючы на вачах слёзы.

Потым было пахаванне. Труну абступілі з усіх бакоў. Мужчыны паздымалі шапкі.

— Ой, дачанька, а на каго ж ты нас пакінула? — лямантавала Марыля.

Слёз у яе ўжо не было, і яна толькі шаптала, пяшчотна гладзячы шорсткай далонню бледны, без крывінкі, твар нябожчыцы.

Па-свойму перажываў гэта і Трахім, які стаяў тут жа, згорблены, з апушчанай галавой.

Пахавалі Ганну на могілках пры станцыі.

Яшчэ адзін наспех збіты крыж пазначыў канец чалавечага жыцця, тут, у далечыні ад роднага дому.

Лявон быў як сам не свой. Першае, што ён хацеў зрабіць, гэта пайсці і забіць Трахіма.

«Гэта ж ён і выпхнуў яе з вагона! Ён на ўсё здольны... А я? — ён ажно жахнуўся, задаўшы сабе гэта пытанне. — Хіба не я падбіваў яго, каб адбылося тое, што адбылося. Тым, што кахаў яе, і яна мяне кахала. Мая тут віна, мая. Адзінокая яна была...»

І ён адчуў поўнае сваё бяссілле, нават бездапаможнасць перад усім, што здарылася.

«Божа мой! Што я нарабіў!» — пакутаваў Лявон, пасля таго, як апынуўся ў вагоне.

Марыля з жахам глядзела на яго спалатнелы твар. Хто-хто, а маці добра ведала, што адбывалася ў яго душы.

— Чаго ты так маркоцішся, сынок! Лёс не лес, за дрэва не схаваешся, як магла, супакойвала яна сына.

А ён усё думаў: «Гэта ж я вінаваты, ёсць тут мая віна! Што яна хацела сказаць гэтым?»

Яны ехалі да Пензы.

## АБ'ЯВЫ

**Адпаведна з рашэннем праўлення "Беларускага літаратурнага фонду" 19 снежня 2002 года ў 10 гадзін у Доме літаратара па вул. Фрунзе, 5 адбудзецца агульны сход сяброў "Беллітфонду".**

**Рэгістрацыя ўдзельнікаў з 8 гадзін раніцы.**

***Праўленне "Беллітфонду".***

•

**18 снежня ў 18 гадзін у рэдакцыі "ЛіМа" адбудзецца пасяджэнне літаб'яднання.**

## Віктар ГАРДЗЕЙ, празаік, паэт:

— Помню як сёння. У цесным класе нашай пачатковай школы, дзе яшчэ нават прыбудоўкі не было, адзін кут займала груваcтая камода, бітком набітая вучэбнымі дапаможнікамі і розным дробным прычындаллем. Некалькі паліц ажно трашчала ад цяжару дзіцячых кніжак, і, здаецца, у гэтай дужа прывабнай камодзе акурат і змяшчаўся ўвесь фонд пасляваеннай школьнай бібліятэкі. Як толькі я навучыўся больш ці менш прыстойна чытаць, то менавіта адсюль панёс дахаты "Міхасёвы прыгоды" Якуба Коласа, "Ліпку і клёнік" Янкі Брыля, і нават "Іркуцянку" Міколы Лобана, але, праўда, хутка вярнуў назад, бо не спадабалася, акрамя хіба вокладкі з малюнкам прыгожай дзяўчыны ў салдацкай гімнасцёрцы і пілотцы.

На той дзіцячы ўзрост я яшчэ не разумеў, што азначае слова "часопіс", і таму мяне заўсёды пацяшала чыясьці відавочная няўважлівасць, бо трэба ж прыслаць у далёкую палескую школу цэлую процьму кніжак з аднолькавай назвай "Полымя". Яны, гэтыя акуратныя томікі, ганарліва стаялі ў цуг на самым версе кніжнага фонду, аднак у галаву неяк не прыходзіла, што сівенькія, па афармленні, блізняты розняцца паміж сабой лічбамі: 1, 2, 3 і так аж да 12. Ніякіх праблем з беларускай мовай тады ў нас не было, хутчэй наадварот: многія мае сябры доўга не маглі ўцяміць, чаму дзяўчынцы Насці з ільнудаўгунцу пашылі не палатняную сарочку, а якісьці "удивительно красивый голубой сарафан". Як я разумею цяпер, у сталым узросце, аматарам часопіса "Полымя" быў сам дырэктар школы Мікалай Адамавіч Кішко, які па-беларуску размаўляў надта сакавіта і смачна: "Дзеці, навагодняй ёлкі заўтра не будзе, таму што ў краме апошняя скрыня цукерак-падушачак зляпілася на камякі".

Ну, канечне: святочная ёлка без цукерак, як і вяселле без гармоніка, але, не сумняваюся, тая груваcтая камода са сваім сціплым кніжным багаццем неўзабаве, усяго праз нейкіх восем-дзевяць гадоў, выкліча ў мяне сапраўды прафесійны інтарэс да часопіса "Полымя", як, зрэшты, і да іншых друкаваных беларускіх выданняў. Мэтай маіх штодзённых культпаходаў цяпер была Малакруговіцкая сельская бібліятэка, перад дзвярыма якой паштальён Іван Муха ажно прыгінаўся, цягнучы цэлы абярэмак свежых газет і часопісаў. Тады, на пачатку шасцідзесятых, у "Полымі" з нумара ў нумар друкаваліся матэрыялы да слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў, гаюча кладуся мне на душу. Ведаю, што з гадамі сінанімічны слоўнік Міхася Клышкі двойчы выдаваўся асобнай кнігай, ды чамусьці набыць яго не ўдавалася — разыходзіцца маланкава. Шкада, вядома, аднак пакуль хапае і тых ведаў, набытых калісьці з дапамогай часопіса "Полымя", за што я ўдзячны яму ўсё жыццё.

Можна смела сцвярджаць: навуковая публіцыстыка зацікавіла хутчэй выпадкова ці чыста інтуітыўна, у той жа час зусім усвядомлена я хапаў у бібліятэцы кожны свежы нумар "Полымя", каб пачытаць усё, што ў ім друкавалі мае любімыя пісьменнікі Іван Мележ, Іван Шамякін, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Іван Навуменка, Іван Пташнікаў, Янка Сіпакоў, Іван Чыгрынаў. О, Божа, колькі іх на Беларусі, такіх слаўных Іванаў і Янкаў! У тым, далёкім ужо, юнацтве з паэтаў мною асабліва абагаўляліся вершы Пімена Панчанкі і Аркадзя Куляшова, Максіма Танка і Анатоля Вялюгіна, бо гэта толькі ён, Анатоль Сцяпанавіч, як сапраўдны Адмірал паэзіі, мог стварыць такі нікім не пераўзыдзены шэдэўр: "Сабе і лету не мані, Убачыўшы ля ганку, У цьмянай чырвані маніст Рабіну, як цыганку". Спіс аўтараў і іх твораў, упадабаных калісьці на старонках нашага старэйшага літаратурнага часопіса, зразумела, намнога шырэйшы, але пералічыць усё, што запомнілася, сёння проста немагчыма.

Цяпер сам бачу: вось што нарабіла груваcтая кніжная камода, якая і зараз часта стаіць уваччу. Дзякуючы ёй, з дзяцінства я зрабіўся заўзятым прыхільнікам часопіса "Полымя". І, мабыць, зусім невыпадкова. Флагман літаратурнага жыцця ў Беларусі заўсёды прапагандаваў прынцыпы гуманізму, дабрыні і чалавечнасці. Нягледзячы на складаныя фінансавыя цяжкасці, менавіта гэтыя адвечныя хрысціянскія каштоўнасці высока цэняцца тут, у рэдакцыі часопіса, і сягоння, пры яго цяперашнім галоўным рэдактары Міколу Мятліцкім.

Мне ж асабіста, як чытачу і аўтару шаноўнага выдання, сітуацыя бачыцца так: жыць у Беларусі і не чытаць часопіс "Полымя" — гэта і ёсць вялікая непавага да пісьменнікаў.

## Анатоль КАЗЛОЎ, празаік:

— У часопіс "Полымя" я прыйшоў працаваць на пачатку вясны 1990 года. Выдатна памятаю той слотны, набрынялы вільгаццю, сакавіцкі дзень, калі па парадзе Генрыха Далідовіча кіраваўся ў рэдакцыю слыннага часопіса. Што і гаварыць — пачуваў сябе ніякавата, падсвядома спрацоўвала думка, што, маўляў, ці варты я такога гонару, каб хадзіць па адным калідоры з карыфеямі нашай літаратуры, з вопытнымі зубрамі рознажанравага акадэмічнага выдання, браць непасрэдны ўдзел у стваральным літаратурным працэсе. Проста рэальна ўзважваў свае магчымасці і вопыт... а вопыту ніякага-то і не было. На той час я толькі заканчваў апошні курс аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук. Меў адзіную кніжачку прозы "Міражы ценяў" ды некалькі ўрывістых гадоў працы ў раённых газетах. А тут "Полымя", часопіс, у якім плённа шчыравалі пісьменнікі, імёны, якіх я добра памятаў, а творчасцю іх захапляўся яшчэ са школьных і студэнцкіх гадоў. Адным словам, часопіс і калектыў рэдакцыі быў для мяне, як і для большасці пачынаючых на той час літаратараў, — Святым месцам. (Гэта ўжо сёння прэтэнцыёзныя маладзёны з завышанымі амбіцыямі любяць адчыняць дзверы ў рэдакцыі і кабінеты нагою.)

Але паразмаўляўшы з супрацоўнікамі рэдакцыі, адразу ж адчуў і зразумеў, што патрапіў да старэйшых добразычлівых сяброў-аднадумцаў, якія, калі патрэбна, падкажуць, дапамогуць, дадуць добрую параду.

У той жа дзень прапанавалі мне пасаду загадчыка аддзела нарыса і публіцыстыкі (іх якраз аб'ядналі ў адзін).

Два гады працы ў гэтым выданні, да пераходу ў часопіс "Маладосць", былі для мяне найвялікшай школай рэдактарскага майстэрства, інстытутам чалавеказнаўства ў рабоце з аўтарамі.

Я і Андрэй Федарэнка, самыя маладзейшыя з супрацоўнікаў, ніколі не адчувалі да сябе з боку калег нядобразычлівасці, ганарлівай пыхі, ці фанабэрыстасці.

І яшчэ: да сённяшняга дня мне больш не прыходзілася сустракаць такога выдатнага прафесіянала, як Лідзія Мікалаеўна Карамазава (рэдактар часопіса па стылі). Яе руплівае, адданае стаўленне да сваіх прафесійных абавязкаў здзіўляла і радавала. Менавіта ў "Полымі" я асабіста пазнаёміўся з большасцю празаікаў, паэтаў, публіцыстаў і крытыкаў, якія і да гэтага часу шчыра працуюць у абранай сферы, прыносячы гонар і павагу нашай зямлі і літаратуры.

"Полымю" — 80 год, для чалавека гэта паважаны ўзрост, а для літаратурнага выдання — узрост сталы, але не старэчы. Ды і як па-іншаму можа быць, калі на старонках майго любімага і дарагога (не ў грашовым сэнсе) часопіса кожны год з'яўляюцца імёны маладых, таленавітых, ва ўсім перспектыўных, аўтараў.

Разам з іх маладосцю, жыццесцвярджальным запалам, уліваюцца ў часопіс сіла і энергія, новае бачанне зменлівага свету, шырыня перспектывы, а значыць — у "Полымя" ёсць не толькі мінулае, але і будучыня.




*Рэдакцыя часопіса "Полымя". Злева направа: Казімір Камейша, Ірына Кульбіцкая, Андрэй Федарэнка, Ала Канапелька, Мікола Мятліцкі (галоўны рэдактар), Віктар Гардзей, Марыя Гусева і Віктар Праўдзін.*

*У афармленні нумара скарыстаны здымкі Ул. Крука, А. Каляды, Я. Казюлі, К. Дробава і Г. Ліхтаровіча.*

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

## КРОКІ Ў НАЧЫ

*Цёплы дзень дагарэў. Скача*
*полымя з гулам,*
*Саснячок над ракою ў зялёнай*
*імгле...*
*За дзень сонцам з вадою ўвесь*
*твар абцягнула,*
*Ногі ў голках сасновых.*
*Далоні ў смале.*
*А Дняпро у кругах: ходзіць*
*рыба шалёна.*
*На слупах на фарватэры —*
*скупа — агні.*
*Побач з намі — чырвоны,*
*наводдаль — зялёны,*
*Наш — адзін, а ў таго*
*у прадонні — двайнік.*
*Раптам водар халодны свежага сена.*
*Раптам пляск. Гэта стог,*
*вялізны, да хмар,*
*На чаўне, што не большы*
*ніяк за палена,*
*Быццам прывід, плыве*
*на зялёны ліхтар.*
*Над ракою дымок. Ціха*
*полымя шастае,*
*Ты і я ў будане на сене ляжым.*
*Калі ёсць на зямлі дзве*
*унцыі шчасця —*
*Ўсё яно, без астачы, у сэрцы маім.*
*Што шукаў ты ў чужой*
*зямлі, чалавеча?*
*І нашто імкнуўся сябе ашукаць,*
*Калі вось, пад рукой тваёй,*
*цёплыя плечы,*
*Вось віно і вогнішча, ноч і рака?*
*І кахаю, як быццам стакрот*
*паміраю,*
*Поўны кожнай пражытай*
*сваёй вясной.*
*Утрапёны агонь, як ты*
*хутка згараеш,*
*І якая кароткая летняя ноч!*
*У вялікім спакоі зямлі шырокай,*
*Да якога праз хвалі мы праплылі,*
*Раптам крокі, мерныя, гулкія крокі,*
*Проста ў вуха, прыціснутае*
*да зямлі.*
*Нехта бераг трасе цяжкімі нагамі,*
*Нехта ноч разрывае,*
*бы глупства чаўпе.*
*Не палохайся. Гэта не зубр*
*і не мамант,*
*Гэта бакеншчык гасіць*
*ліхтар на слупе.*
*Цішыня. Над вадою туманныя вежы.*
*Дай мне гэту зямлю з табою абняць.*
*Ты — празрыстасць, ты ўся —*
*нерухомая свежасць,*
*Ўся — глыбінная, аж да канца,*
*цеплыня.*
*Ты не чуеш, як падаюць*
*росы патокам,*
*Як гарлачыкам трызніцца*
*новы дзень,*
*Як нячутнымі, як салаўінымі*
*крокамі*
*Над вялікай ракою каханне ідзе.*

## МАЛЕННЕ ДА БОГА РЭК

*Божа рэк, ажані*
*Мой Дняпро з прыгажуняй Акой.*
*У яго — крутаяры ў зеніт,*
*У яе — лукавін спакой.*
*Ён мужчына. Над ім — курганы,*
*Змеі соснаў — кронамі ўніз.*
*А над ёю — пракосаў сны*
*І дзявочых святліц агні.*
*Ён ад страсці рве берагі,*
*Асіянаўскі месяц над ім,*
*І туман плыве на лугі,*
*Як начнога змагання дым.*
*Трупы мокрыя чорных дубоў —*
*Нібы яшчары ў берагах,*
*А на дне — карагоды віроў*
*І дрыжачых багновак жах.*
*Месяц кроў праліваe ў яго,*
*Кроў сцякае з ласіных губ*
*На патопленых даўніх багоў,*
*На бязмежную іх тугу.*
*А над ёю жаўрук пяе,*
*І калі смяецца зара,*
*Кісці скрыпня над ложам яе,*
*Як вясельныя свечы, гараць.*

*Калі хочуць стракозы піць,*
*У самы ярасны сонечны ўзлёт*
*У тваіх гарлачыках спіць*
*Нерасталы блакітны лёд.*
*У свяцёлках тваіх агні*
*Здаўна марацъ аб сіле такой...*
*Чым не муж табе, не жаніх,*
*Не сцяна для пакоры тваёй?*
*Чым не муж табе, не жаніх,*
*Не любоў для любові тваёй?*
*................................................*
*Божа рэк зямных, ажані*
*Дняпро з прыгажуняй Акой.*

"Полымя" №10, 1966

Міхась СТРАЛЬЦОЎ

***

*Канечне, для таго і ніва,*
*І для таго імпэт і пот,*
*Каб потым добрым было жніва*
*І адпаведна — умалот.*

*Я сам як быццам хлопец наскі,*
*І моц адчуўшы у плячах,*
*Я не адны на полі краскі*
*У касавіцу прыкмячаў.*

*І на траве расісты россып*
*Не для акрасы быў тады,*
*Як паспяваў ступою ў поступ*
*Мужчынскай дружнай грамады.*

*І той парою сенакоснай*
*У перакур у халадку*
*Наўрад ці надаваў сур'ёзна*
*Значэнне нейкаму радку.*

*Я шанаваў з касой сваяцтва,*
*І пекалаванне, і прыпар.*
*Было мне другасным мастацтва,*
*А першым — сотка і гектар.*

*Але паглядваў хітравата*
*Знячэўку Хведар ці Панас:*
*Маўляў, вылазь з мужыцкіх*
*спратаў,*
*Такі, як ёсць, ідзі да нас.*

*Намёк балючы, хоць тактоўны:*
*Маўляў, праз сем сваіх патоў*
*Усё ж для еднасці працоўнай*
*Ты не гатоў і не гатоў.*

*Маўляў, касьба — яна не штука.*
*Загасцяваўся ты ў гасцях.*
*Маўляў, інакшая навука*
*Ў цябе і ў думках, і ў касцях.*

*Зямлі — зямное, неба — небу,*
*Што маеш, тым і даражы.*
*Ты нам пра Пушкіна што-небудзь,*
*Ты нам пра Коласа скажы!..*

*О гэты лад і склад гаворкі —*
*У ім і мудрасць, і наіў!*
*Але ж і як было мне горка,*
*Як я няўмела бараніў*

*Сваё не тое каб і права —*
*Жаданне хоць, памкненне хоць! —*
*Сказаць: вось тут мая ўся слава,*
*Другая — хочаш, не прыходзь!*

*І што мне, бацюхны вы, светы,*
*Калі на радасць ці бяду*
*Я, можа, не радкі — куплеты,*
*Як вы сказалі тут, складу...*

*Так думаў я. Дзядзькі маўчалі.*
*Над пожняй бусел веславаў.*
*А я ў сумненнях і адчаі*
*Насустрач лёсу адплываў.*

"Полымя" №12, 1981


У. КАРАТКЕВІЧ на Прыпяці. 1969 г.

Вера ВЯРБА

## РУЧНІКІ

*У суботу Янка*
*Ехаў ля ракі.*
*Пад вярбой Алёна*
*Мыла ручнікі.*

*— Пакажы, Алёна,*
*Броды земляку,*
*Дзе тут пераехаць*
*На кані раку?*

*— Адчапіся, хлопец,*
*Едзь абы-куды,*
*Не муці мне толькі*
*Чыстае вады...*

*У маркоце Янка*
*Галавой панік.*
*Упусціла дзеўка*
*Беленькі ручнік.*

*— Янка, мой саколік!*
*Памажы хутчэй*
*Ой, плыве, знікае*
*Ручнічок з вачэй...*

*— Любая Алёна,*
*Я вады баюся.*
*Пацалуй спачатку —*
*Што, як утаплюся?..*

*Супыніўся гнеды*
*Пад вярбой зялёнай.*
*Цалавала Янку*
*Над вадой Алёна.*

*Стала ціха-ціха*
*На усёй зямлі.*
*Па рацэ далёка*
*Ручнікі плылі.*

"Полымя" №3, 1959




ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| **намеснік галоўнага рэдактара —** | **284-8525** |

**АДДЗЕЛЫ:**

| | |
|---|---|
| **публіцыстыкі —** | **284-8153** |
| **пісьмаў і грамадскай думкі —** | **284-4404** |
| **літаратурнага жыцця —** | **284-4404** |
| **крытыкі і бібліяграфіі —** | **284-4404** |
| **паэзіі і прозы —** | **284-4404** |
| **музыкі —** | **284-8153** |
| **тэатра, кіно — выяўленчага мастацтва —** | **284-8153** |
| **карэктарская —** | **284-8091** |
| **бухгалтэрыя —** | **284-4991** |
| **Тэл./факс —** | **284-8525** |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1700
Нумар падпісаны ў друк 11. 12. 2002 г. у 15.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2941

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12